У НУМАРЫ



# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (759) БЕЛАСТОК 13 ВЕРАСНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.




Нягледзячы на неспрыяльнае лета, аўгустоўскія лясы і азёры перапоўнены турыстамі. Лясы над азёрамі хутка забудоўваюцца маленькімі турыстычнымі домікамі, з году ў год штораз менш над аўгустоўскімі азёрамі свабоднай лясной прасторы.

Нягледзячы на неспрыяльнае лета, шуміць жыццё і ў маладзёжных лагерах у Борках каля Аўгустова. Мелі тут свае лагеры розныя групы моладзі: група маладажонаў, школьнай моладзі, сімпозіум студэнтаў-стыпендыстаў Беласточчыны і г.д. Прышлося мне пабываць з групай беластоцкіх журналістаў на сустрэчы са студэнтамі-стыпендыстамі. Студэнты цікавяцца Беласточчынай, яе праблемамі і перспектывамі развіцця. Неўзабаве пачнуць тут працу на розных адказных пасадах. На сімпозіуме ў час шматлікіх сустрэч з дзеячамі гаспадаркі, культуры і асветы Беласточчыны студэнты шмат чаго даведваюцца аб Беласточчыне, яе патрэбах і перспектывах развіцця.

Будучы ў аўгустоўскіх Борках наведаў я і іншы лагер — лагер рамесніцкай моладзі Беласточчыны. Сабралася тут на летні адпачынак моладзь з усяго ваяводства, якая вучыцца рамясла. Лагер размешчаны ў прыгожых маленькіх доміках — у кожным газ, свежая вада, халадзільнік, радыё, чысценькі ложак, над возерам лодкі, байдаркі, ды іншыя ўстройствы для карыстання прыемнасцямі вады і сонца.

— Якая галоўная мэта лагера? — пытаю каменданта Вацлава Якубоўскага.

— Галоўным заданнем, — адказвае камендант, — з'яўляецца, зразумела, адпачынак. Хочам даць моладзі, якая цэлы год вучыцца, а адначасова і працуе ў розных рамесных варштатах, добры, культурны і здаровы адпачынак. Пры тым моладзь знаёміцца паміж сабою, навязвае сяброўскія кантакты і сімпатыі. Знаёмяцца паміж сабою маладыя людзі розных гарадоў і вёсак Беласточчыны. Пры аказіі вучым моладзь думаць і разумець сучасную сітуацыю нашай краіны і розныя міжнародныя праблемы.

Выхаваўчыя мэты маладзёжны лагер рэалізуе, рэч зразумелая, не дарогаю нудных дакладаў, метадам цікавых экскурсій, сустрэч з цікавымі людзьмі, дыскусій, вечарынак, кінафільмаў і г.д.

Можна смела сказаць, што моладзь з паасобных паветаў Беласточчыны шмат чаго тут навучылася. Дзеячы культуры расказвалі аб развіцці культуры і асветы ў Народнай Польшчы, дзеячы маладзёжных арганізацый — аб ролі, заданнях і працы гэтых арганізацый, пасол у Сейм Крыстына Маршалак расказала моладзі аб працы Сейма і радаў нарадовых. Прысутныя пазнаёміліся з гісторыяй і сучаснасцю Беластоцкай зямлі.

А ўсё адбывалася ў акружэнні чыстай прыроды: лес, шыр азёр, кожны вечар у вялікай зале святліцы моладзь танцавала пад рытм сучаснай маладзёжнай музыкі. Танцы часта спалучаны былі з рознымі «канцэртамі па заяўках», конкурсамі песень і маскарадамі. Адбываліся конкурсы танца, гумару, сатыры, адбыўся вечар, прысвечаны рэвалюцыйнай і ваеннай песні.

Калі я паявіўся ў лагеры, ішла якраз сустрэча з доктарам Багуславам Бяганскім з Варшавы, спецыялістам ад

Працяг на стар. 4



*Над рэчкаю Нараўкаю.* *Фота — Я. Цялушэцкі.*




Да кожнай творчай працы, як паветра і вада для жыцця, неабходна цішыня, каб мастак мог застацца ў сваім унутраным свеце, па якім з шумам гуляюць вятры ідэй, намераў і хістанняў. Сярод гэтых вятроў родзіцца тэма і спосаб яе выражэння.

Такія ўмовы ставарае менавіта Белавежа. Асабліва калі заглыбіцца ў пушчу, адысці ад рухлівых дарог. Дык тады не толькі мастак адчыняе рот ад захаплення. На фоне чыстага шэра-сіняга неба стройныя сосны і ёлкі расчэсваюць белыя косы хмарам. А колькі там колераў! Звярніце, калі ласка, на гэтае ўвагу. Паглядзіце, колькі адценняў, колькі нюансаў аднаго толькі зялёнага колеру. Сасна адрозніваецца ад ёлак, ёлкі ад ядлоўца, граб ад асіны, бяроза ад... Дарэмна ўсё пералічваць. Гэта трэба пабачыць, перажыць. Або трэба быць мастаком і прысвяціць свой талент, каб другім перадаць прыгажосць белавежскага наваколля.

Мастакі жывуць у новым, прыгожым гатэлі «Іва». Красуецца ён на ўзгорку, дзе калісьці стаяў царскі палац, дзе ў час гітлераўскай акупацыі знаходзілася гняздо нямецкай разведкі, дзе ў падвалах гестапа катавала і расстрэльвала бездапаможных людзей. Цяпер камфартабельны гатэль «Іва» служыць турыстам, служыць усім, хто хоча захапляцца пушчанскай прыгажосцю.

Ад палавіны жніўня да палавіны верасня 6-ты раз сустракаем тут мастакоў. У гэтым годзе сабралася іх 33. Сёлеташні камісар пленера, мастак Юры Зінкаў сцвярджае, што назву «Белавежскі мастацкі пленер» ужо трэба папоўніць прыметнікам «міжнародны». І сапраўды, другі раз у белавежскім мастацкім пленеры прымаюць удзел замежныя госці. Цяпер іх 6. На пленеры знаходзяцца немцы. Адам Курц з Берліна і Карл Вестэнбургер з Карл Маркс Штадт. Яны з'яўляюцца прадстаўнікамі мастакоў з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Адам Курц даволі добра гаворыць па-польску і па-руску, дык яго пытаю пра ўражанні.

— Уражанні цудоўныя, — упэўнена сцвярджае ён. — Я адпачываю поўнымі грудзьмі. — І настрой да працы вельмі спрыяльны: добрыя матэрыяльныя ўмовы і рэдкая прыгажосць краявідаў.

— Дык можна тады спадзявацца плённых вынікаў.

— Гэта зможаце ацаніць на выстаўцы прац, якая прадбачваецца пасля пленеру.

Пакойчык № 214 пераўтварыўся ў майстэрню для Нусрэта Хрвановіча, які прыехаў у Белавежу аж з Сараева.

— На тэрыторыі Босні і Герцагавіны, дзе я жыву, поўна гор і далін, краявід напамінае стыль барока. А тут, у вас — цішыня і раўніны, лес і прасторнае поле. Гэта мяне захапіла і ўзрушыла. Я стараўся свае пачуцці замацаваць на палотнішчы. Вось паглядзіце: гэты плоскі пас жаўтаватага колеру, што цягнецца знізу, гэта ўяўленне менавіта раўніны; вышэй, бачыце, жоўты колер пераходзіць у розныя адценкі зялёнага і галубога, на гэтым фоне плямкі лісткоў. Так я стараўся перадаць пейзаж Белавежскай пушчы. Зрэшты, сімвалізм з'яўляецца асновай майго мастацтва. Я

Працяг на стар. 4



*Беластоцкі мастак Аляксандр Хомчык захапіўся старой архітэктурай Белавежы.*




■ 27 жніўня адбылося пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення. Прэзідыум ацаніў новую праграму эстрады, кадравую сітуацыю і ў гэтых справах прыняў адпаведную пастанову.

Затым прэзідыум выбраў арганізацыйны камітэт святкавання 15-ай гадавіны БГКТ і «Нівы», у склад якога ўвайшлі члены прэзідыума ГП і прадстаўнікі паасобных аддзелаў: Міхась Хмялеўскі — старшыня камітэта, Мікалай Самоцік, Янка Зенюк, Аляксандр Баршчэўскі, Шыман Шыманюк, Мікалай Гайдук, Мікалай Матэйчук, Уладзімір Юзвюк, Георгі Валкавыцкі, Юрка Туронак, Аляксандр Рафаловіч, Уладзімір Паўлючук, Юрка Бусловіч, Уладзімір Навіцкі, Васіль Баршчэўскі, Іван Ляўко, Анна Красько і Станіслаў Пазнанскі.

Прэзідыум ГП таксама выбраў рэдакцыйную камісію навуковага гуртка, якая будзе рэдагаваць навуковыя сшыткі. Складаецца яна з трох нашых доктараў навук: Аляксандра Баршчэўскага (галоўны рэдактар), Уладзіміра Юзвюка і Уладзіміра Паўлючука.

У сувязі з тым, што Уладзімір Паўлоўскі і Марыся Мароз адыходзяць на працу ў школьніцтва, прэзідыум ГП прыняў на працу ў ГП на пасаду культурна-асветнага кіраўніка Сяргея Лукашчука дагэтуляшняга кіраўніка васьмікласнай школы ў Галадах і адначасова мастацкага кіраўніка бельскага хору БГКТ. На месца салісткі Марысі Мароз прэзідыум прыняў на працу ў эстраду «Лявоніха» Тэклю Вашчук, дагэтуляшнюю настаўніцу музыкі, спеву і беларускай мовы ў васьмікласнай школе ў Мілейчыцах.

■ У жніўні эстрада ГП «Лявоніха» выязджала на турнэ ў Келецкае ваяводства. Дала яна там 14 канцэртаў.

■ 30 жніўня жаночы харавы калектыў БГКТ, які існуе пры грамадскім доме культуры ў Гарадку, выступіў з канцэртам у Крынках на павятовых дажынках Сакольскага павета.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізуе эстрадную групу. Ужо ёсць пяціасабовы аркестр. Патрэбны салісткі ў колькасці 5—6 асоб. Ахвотных дзяўчат запрашае да працы беластоцкі аддзел.

(мх)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

### НЯМА СПАКОЮ

Вочы палітыкаў свету, як і ў мінулым, канцэнтраваліся на Бліжнім Усходзе. Сітуацыя тут вельмі напружаная і цяжка прадбачыць будучыню.

Маўклівы дыпламат Г. Ярынг, які з'яўляецца медыятарам з боку ААН, вядзе размовы ў Нью-Йорку з прадстаўніком егіпецкага ўрада на тэму мірнага ўрэгулявання бліжнеўсходняга канфлікту.

Новую падтрымку атрымаў ізраільскі ўрад ад свайго апекуна Злучаных Штатаў. Прадстаўнік амерыканскага ўрада прызнаў, што яго ўрад згаджаецца з закідамі Ізраіля ў справе недатрымання пастановы аб спыненні агню Егіптам. Зразумела, егіпецкі ўрад адкінуў гэтыя закіды, даказваючы, што гэта Ізраіль не падпарадкаваўся падпісанаму дагавору. Гэтая падтрымка дала магчымасць зноў выступіць перад камерамі тэлебачання ізраільскаму міністру М. Даяну. Падкрэсліў ён зноў, што адзіным вырашэннем канфлікту з арабамі з'яўляецца мілітарная сіла і што дагавор аб спыненні агню перастаў дзейнічаць.

Такая палітыка ізраільскага міністра, далікатна гаворачы, рызыкоўная для самой ізраільскай дзяржавы. Даян, відаць, забыўся, што арабаў 100 мільёнаў і што іх мілітарная сіла расце з дня на дзень.

### МІЛІТАРНЫ БАЛАНС

Лондапскі інстытут, які займаецца стратэгічнымі даследаваннямі на свеце, нядаўна аб'явіў статыстычныя даныя сваіх даследаванняў. З рапарту, загаловак якога «Мілітарны баланс 1970—71» вынікае, што найбольш змілітарызаванай краінай на свеце з'яўляецца Ізраіль, а з вялікіх дзяржаў — Злучаныя Штаты Амерыкі.

Ізраіль мае найбольшую колькасць войска і ваенных прылад у пераліку на колькасць насельніцтва (уключна з акупіраванымі тэрыторыямі). З апублікаваных інстытутам табліц вынікае, што ў 1967 г. Ізраіль выдаткаваў на ваенныя мэты 13,8% нацыянальнага даходу. У наступным годзе гэтыя выдаткі павялічыліся да 15,7%, а ў мінулым годзе да 25,1% нацыянальнага даходу. Грамадскасць Ізраіля з'яўляецца найбольш змілітарызаваным грамадствам свету, паколькі 14,3% мужчын прызыўнога ўзросту — афіцыйна ўзброеныя.

Злучаныя Штаты выдаюць 8,6% нацыянальнага даходу на ваенныя мэты ў год, а 8,5% мужчын прызыўнога ўзросту знаходзіцца ў тэрміновай ваеннай службе.

З іншых істотных даных вынікае, што Савецкі Саюз мае перавагу над Злучанымі Штатамі ў міжкантынентальных балістычных ракетах і што ў Еўропе існуе раўнавага сіл між Варшаўскім дагаворам і НАТО.

### ТАННЕЙШЫЯ САМАХОДЫ

Больш-менш год таму ў ЧССР легкавыя самаходы можна было купіць на «вольным рынку». У апошні час, з прычыны павялічаных імпартных паставак зніжаны цэны на гэтыя самаходы. Напрыклад, польскі «Фіат 1300» каштуе 90 тыс. карон (даўней 110 тыс.), а «Фіат 1500 см³» — 110 тыс карон (даўней 121 тыс.). Цана ўласнай «Шкоды 110» зараз 69 тыс. карон (зніжка на 20 тыс. карон). (ак)

 БССР

### ДАР

Дар Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, які складаецца з вучнёўскіх прылад, перадаў міністэрству асветы С'ера Леонэ пасол Саюза ССР у С'ера Леонэ А. М. Аляксандраў.

### ЗАМЕЖНЫХ

Закончыўся з'езд замежных студэнтаў, якія прыбылі на вучобу ў Беларускую ССР. Сёлета заняткі на падрыхтоўчым факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна пачынаюць каля 120 юнакоў і дзяўчат з розных краін свету.

Упершыню ў беларускіх вышэйшых установах будзе навучацца 9 юнакоў і дзяўчат з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Шэсць маладых беларусаў ужо займаюцца ў нямецкіх вышэйшых школах, а восем пачнуць заняткі сёлета.

### У КЛУБЕ ЖУРНАЛІСТАЎ

У клубе журналістаў адбылася чарговая прэс-канферэнцыя для работнікаў газет, часопісаў, радыё і тэлебачання гор. Мінска. З паведамленнем аб праблемах рацыянальнага выкарыстання працоўных рэсурсаў рэспублікі выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па выкарыстанню працоўных рэсурсаў Ф. Рома.

### «БЕЛАРУСЬ»

Сёлета рачнікі Мазыра адкрылі новыя хуткія пасажырскія лініі. Быстраходныя судны на падводных крылах тыпу «Беларусь» звязалі Мазыр з Петрыкавам і Туравам.

### ПАЛІГРАФІЧНАЯ

У выніку шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва паліграфічная прамысловасць сістэмы Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку датэрмінова выканала планавае заданне гэтай пяцігодкі па агульнаму аб'ёму выпуску ўсёй друкаванай прадукцыі, а таксама сшыткаў, блакнотаў і іншых тавараў культурна-бытавога прызначэння і гаспадарчага ўжытку.

### СКАРБОНКА

Даліна ракі Прыпяць, званая беларускай скарбонкай карысных выкапняў, штораз адкрывае свае дары. Аказалася, што ў глыбінях палескай зямлі сапраўдны вар, знаходзяцца ў ёй так званыя тэрмальныя воды. Найбольш перспектыўным раёнам для атрымання тэрмальных вод, як лічаць вучоныя, з'яўляецца зона паўночнага глыбіннага разлому Прыпяцкай упадзіны. Гэтыя воды ўтрымліваюць у сваім складзе вялікую колькасць карысных растваральных мінеральных соляў. Высокамінералізаваныя серавадародныя расолы павышанай тэмпературы па свайму саставу блізкія да вод вядомага ўральскага курорта Усць-Качка.

Сёлета беларуская лабараторыя геахімічных праблем пачала палявыя даследаванні па геатэрміцы Магілёўскай і поўдня Мінскай абласцей.

### ВЯЛІКАЙ

Горадам вялікай хіміі стане неўзабаве Мазыр. Тут уводзіцца буйны прамысловы комплекс нафтахімічных прадпрыемстваў. Будзе тут выраблядца мазут, дызельнае паліва, бензін, бітум розных марак.

Беларускае Палессе, як вядома, з'яўляецца багатым нафтавым раёнам Беларусі. (ся)

 ПОЛЬШЧА

### ДАЖЫНКІ

Мінулая нядзеля, 6 верасня, была днём цэнтральных агульнапольскіх дажынак.

На стадыён 10-годдзя прыбыла шматтысячная група сялян і тых, хто служыць сельскай гаспадарцы. Апрача іх месцы на стадыёне занялі жыхары Варшавы, якія традыцыйна прыходзяць паглядзець дажынковыя абрады.

У ганаровай ложы заселі гаспадар дажынак I сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка, старшыня Рады Дзяржавы Мар'ян Спыхальскі, старшыня Савета Міністраў Юзэф Цыранкевіч, прэзас НК ЗСЛь Чэслаў Выцэх, член кіраўніцтва ЦК СД Яўгенія Красоўская і іншыя кіраўнікі партыі і дзяржавы.

Бохан хлеба, сімвал сёлетніх плёнаў, уручылі гаспадару дажынак старасціна Яніна Лада з в. Радзіцэ і стараста Раман Барткевіч з в. Бжэзе.

Пасля цырымоніі ўручэння бохана хлеба з прамоваю выступіў У. Гамулка. Сказаў ён, што з прычыны вельмі цяжкай зімы і вясны колькасць пасеваў збожжа паменшылася на 400 тыс. гектараў. Вельмі капрызнае надвор'е сталася прычынай памяншэння выдайнасці збожжа на 1 цэнтнер з гектара ў параўнанні з мінулым годам. I сакратар ЦК сказаў, што ў такой сітуацыі трэба лічыцца з павелічэннем імпарту збожжа, асабліва з СССР. У апошні час Савецкі Саюз пастаўляў нам ад 1 мільёна да 1,2 мільёна тон збожжа.

Сітуацыю ў сельскай гаспадарцы пагоршыла мінулагодняя засуха, якая панізіла плёны на 10%, а асабліва пацярпелі кармавыя расліны. Гэта было прычынай памяншэння жывёлагадоўлі на 1,9%, г. зн. на 210 тыс. штук, а свінагадоўлі на 6,3%, г. зн. на 900 тыс. штук на працягу года. Аднак у апошні перыядназіраецца павелічэнне жывёла- і свінагадоўлі. Стаецца гэта магчымым дзякуючы высокаму ўраджаю незбожжавага корму (сена, бульбы, і т.п.).

Каб зацікавіць павелічэннем свінагадоўлі гаспадароў, урад павысіў цэны свіней вагой ад 120 па 130 кг. на больш чым 2 зл. за 1 кг. жывой вагі ад 1 лістапада г.г.

Асноўнае заданне сельскай гаспадаркі цяпер гэта тэрміновае і стараннае выкананне работ. Ад гэтага, сказаў У. Гамулка, у многім будуць залежаць плёны ў наступаючым годзе, які з'яўляецца першым годам новай пяцігодкі.

Да дасягненняў сельскай гаспадаркі гаспадар дажынак залічыў таксама павелічэнне прымянення мінеральных угнаенняў. У гэтым годзе прымянялася іх у сярэднім 140 кг (NPK) на 1 гектар, што абазначае на 10% больш, чым у мінулым годзе. Гэтыя высокія даўкі мінеральных угнаенняў патрабуюць умеласці іх прымянення згодна з прынцыпамі навукі. З другога боку, прымяняемыя інтэнсіўныя сарты азімага збожжа патрабуюць старанных клопатаў у галіне агратэхнікі і ўгнаення.

Дзеля гэтага спецыялісты сельскай гаспадаркі ў бліжэйшы час апрацуюць праграму сельскагаспадарчага «шкалення», агратэхнічныя заданні і заданні ў галіне ўгнаення для гаспадароў. (ак)

 ВАЯВОДСТВА

### УРАЧЫСТАСЦІ

Першы тыдзень верасня прайшоў пад знакам урачыстасцей, звязаных з пачаткам школьных заняткаў. Амаль ва ўсіх школах на ўрачыстым адкрыцці новага навучальнага года прысутнічалі члены арганізацыі ЗБОВіД — ветэраны II сусветнай вайны. Яны расказвалі вучням аб трагічным верасні 1939 года, аб пачатку II сусветнай вайны, аб барацьбе палякаў на ўсіх франтах. Сустрэчы ветэранаў вайны з вучнямі і моладдзю будуць працягвацца ўвесь верасень.

### НА ДАЖЫНКАХ

На Цэнтральных дажынках у Варшаве пабывала дэлегацыя беластоцкіх перадавікоў сельскай гаспадаркі, якая складалася з 2200 чалавек. Частка дэлегатаў напярэдадні выезду ў Варшаву пабывала на беластоцкіх прадпрыемствах. Працаўнікі сельскай гаспадаркі наведалі камбінат у Фастах, мясакамбінат, фабрыку металёвых прылад, млын, мяшальню кармоў у Старасельцах, «Спомаш» і іншыя фабрыкі, якія працуюць для патрэб сельскай гаспадаркі. Вечарам група перадавікоў сельскай гаспадаркі сустрэлася з I сакратаром ВК ПАРП А. Лашэвічам. На гэтай сустрэчы лепшыя з іх атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды.

### III ТЫДЗЕНЬ ТЭХНІКІ

Ад 14 да 22 верасня на Беласточчыне будзе адбывацца чарговы, III тыдзень тэхнікі, арганізаваны Галоўнай тэхнічнай арганізацыяй, Ваяводскай камісіяй прафсаюзаў і Саюзам сацыялістычнай моладзі. У праграме шэраг канферэнцый і сустрэч, прысвечаных розным пытанням з галіны картаграфіі, геатэхнікі ў пракладцы дарог, навукова-тэхнічнай інфармацыі, забеспячэння ад карозіі прамысловага абсталявання, эканомікі прамысловага будаўніцтва, рацыяналізацыі. У час гэтага тыдня будзе адкрыта выстаўка прапаноў маладых рацыяналізатараў і вынаходцаў і выстаўка паштовых марак на тэхнічныя тэмы.

Тыдзень тэхнікі адкрыецца злётам маладых майстраў тэхнікі.

### НА ПОЗНАНСКІ КІРМАШ

13 верасня адкрываецца чарговы краёвы кірмаш у Познані. Што пакажа там беластоцкая дробная прамысловасць? Найбольшую прапанову для гандлю вязе абутковая фабрыка з Сямяціч. Шэраг розных тавараў запрапануе на кірмашы Ваяводскае прадпрыемства паслуг. Будуць гэта тканіны на мэблю, дываны, коўдры, рабочыя камбінезоны і іншыя. Шмат добрых рэчаў павязуць у Познань Беластоцкая фабрыка галантэрыі, трыкатажная фабрыка з Кольна і іншыя.

### ДЛЯ ВЯСКОВЫХ ДЗЯЦЕЙ

Беластоцкі лялькавы тэатр пачаў свой новы тэатральны сезон працай у малых мясцовасцях. Першае прадстаўленне пасля летняга сезона адбылося ў вёсцы Жэндзяны, Беластоцкага павета. Большасць вераснёвых прадстаўленняў беластоцкага тэатра для малышоў адбудзецца ў вясковых клубах і святліцах. Першае выступленне тэатра ў Беластоку адбудзецца 19 верасня.

У канцы верасня група артыстаў лялькавага тэатра выязджае на турнэ па Балгарыі. (яч)




**Niedziela, 13.IX.**

8.25 Program dnia; 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie"; 8.50 „Przypominamy, radzimy"; 9.00 Dla młodych widzów: „Złota piłka" — program sportowy; „Czterej pancerni i pies" — film TVP; 10.30 „Gra orkiestra TV Katowice"; 10.50 „Tajemnica Wilhelma Storitza" — film fab. czechosł.; 12.40 Dziennik; 13.00 „Przemiany"; 13.20 „Wielka gra"; 14.20 „Piórkiem i węglem"; 14.50 Estrada Literacka; 15.35 „Koncert przyjaźni" — transmisja z zakończenia VI Festiwalu Muzyki Rosyjskiej i Radzieckiej w Lądku Zdroju; 16.20 PKF; 16.30 „Berlińskie spotkania" — rep. film.; 17.00 Transmisja międzypaństwowych zawodów lekkoatletycznych Polska — Wielka Brytania; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Zapraszamy na pół czarnej" transmisja z kawiarni „Kaprys" w Warszawie; 21.00 „Urodzony pod złą gwiazdą" — film fab. — western; 22.25 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek, 14.IX.**

14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.40 „Echo stadionu"; 18.00 „Wokół planu Du Pertre" — film dok. czechosł.; 18.15 „Kino Filmów Animowanych"; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Śpiewa Krystyna Jamroz" — film TVP; 20.20 Teatr TV: J. Lenart — „Poletko nad jeziorem"; 21.45 „Kolos na redzie"; 22.15 Dziennik.

**Wtorek, 15.IX.**

8.15 „Pożegnania" — film fab. pol.; 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Warszawa dawniej i dziś"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — H. Ibsen — „Nora"; 11.25 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przechowywanie i konserwacja pasz"; 14.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 „Próba syntezy" — czyli o pracy doktorskiej Andrzeja Karpińskiego pt. „Polityka uprzemysłowienia Polski w latach 1958—1968"; 17.05 TV Ekran Młodych; 19.00 „Szkice do portretu" — Tadeusz Tański; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Pożegnania" — film fab. pol.; 21.45 „Refleksje"; 22.15 Dziennik.

**Środa, 16.IX.**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Pierwsza wojna światowa"; 9.30 Przerwa; 10.00 „Żegnaj Baśka" — film TVP („Kolumbowie"); 11.00 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Miary"; 12.25 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód"; 13.15 Przerwa; 14.25 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.40 „Reklama w piosence"; 17.55 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej GKS Katowice — Barcelona (o Puchar Miast Targowych); 18.45 PKF; 19.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Ruch „Chorzów" — AC/Fiorentina (o Puchar Miast Targowych); W przerwie ok. 19.45 Dziennik; 20.50 „Żegnaj Baśka" — film TVP („Kolumbowie"); 21.50 „Światowid"; 22.20 Film rozrywkowy; 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 17.IX.**

8.15 Matematyka w szkole: „Zastępowanie elementów analizy" (zajęcia fakultatywne) II; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Bertolt Brecht"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja średniowiecza"; 11.25 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.55 TV Kurier Białostocki; 18.10 „Giełda piosenki"; 18.40 „Jesień 70" — program z Targów Poznańskich"; 19.15 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Kino Interesujących Filmów: „Kto zabił" — film fab. franc.; 21.50 „Polska zza siódmej miedzy"; 22.20 Dziennik.

**Piątek, 18.IX.**

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „To co po nas zostanie"; 11.30 „Synowie magnata" — film fab. węg. cz. I; 14.25 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy; 15.20 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; „Telewizja i Ty"; 17.25 Dla dzieci: „Psia przysługa" — film („Tomek i pies"); 17.50 TV Kurier Mazowiecki; 18.05 „Nie tylko dla pań"; 18.25 Film; 18.45 Wszechnica TV: „Nasi uczeni" — prof. dr Włodzimierz Zonn; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Recital piosenkarski Łucji Prus; 20.30 „Kraj"; 21.10 „Synowie magnata" — film fab. węg. cz. I; 22.30 Dziennik.

**Sobota, 19.IX.**

10.00 „Synowie magnata" — film fab. węg. cz. II; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Twój poseł"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Z biegiem Nilu"; 13.15 Przerwa; 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Konserwacja pasz na okres zimowy"; 15.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 15.10 Program tygodnia; 15.30 Przerwa; 16.30 „Oferty"; 16.40 Dziennik; 16.50 „Spotkania z przyrodą"; 17.20 „Chłopcy z fantazją" — film radz. dla dzieci; 18.35 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 Warszawska Jesień: Koncert Inauguracyjny. Transmisja z Filharmonii Narodowej w Warszawie; 20.55 Dziennik; 21.15 „Synowie magnata" — film fab. węg. cz. II; 22.35 „Miotełki Warszawskie".




**Piątek, 11 września**

8.05 Nowiny; 8.15 Film fab.; 9.45 Mistrzostwa Europy w pływaniu; 10.45 Nowiny; 15.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.15 „Zdrowie"; 15.55 Przed mistrzostwami ZSRR w lekkiej atletyce; 16.25 Panorama nowin; 16.45 TV film dokument.; 17.10 Program młodzieży; 18.00 Mistrzostwa Europy w pływaniu; 18.30 Czas; 19.00 TV teatr miniatur; 19.50 Ziemia i ludzie; 20.20 Film fab.; 21.55 Nowiny.

**Sobota, 12 września**

8.15 Koncert; 8.45 Przegląd międzynarodowy; 9.00 Film dokument.; 9.35 Szkatułka muzyczna; 9.45 Zdrowie; 10.15 Kronika półwiecza. Rok 1951; 11.10 Śpiewa Iosif Kabzon; 11.55 Czasopismo „Nioman"; 13.00 Mistrzostwa ZSRR w lekkiej atletyce; 17.00 „Na każdym kilometrze". Seryjny film fab. 5 seria; 18.00 Mistrzostwa Europy w pływaniu; 18.30 Czas; 19.00 Panorama filmowa; 20.30 Przed Dniem czołgistów; 21.15 Koncert 22.15 Nowiny.

**Niedziela, 13 września**

8.00 Dla uczniów; 8.30 Białe i czarne; 9.00 Filmy animowane dla dzieci; 9.30 Ludowy artysta ZSRR B. Jefimow; 10.00 Iwan Szamiakin (dla uczniów — „pisarze białoruscy"); 10.40 Koncert; 11.25 Film fab.; 12.50 Bezpieczeństwo ruchu; 13.00 Mistrzostwa ZSRR w lekkiej atletyce; 15.00 Klub filmowy; 16.00 Nowiny; 16.05 Dla wsi; 16.30 Koncert; 17.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Dynamo" (Tbilisi); 19.15 Komentarz dnia; 19.30 Film fab.; 21.10 Program muzyczny; 22.00 Nowiny.

БЕЛАРУСІЯНА

# ЧЭКАНОЎСКІ АБ БЕЛАРУСІ

Варшаўскае Навуковае дзяржаўнае выдавецтва некалькі гадоў таму назад выпусціла ў свет кніжку Яна Чэканоўскага — «Чалавек у часе і прасторы». Гэта спроба абагульнення дасягненняў сусветнай антрапалагічнай навукі. Свайго часу пісалі мы аб меркаваннях Чэканоўскага наконт антрапалагічных з'яў на Беласточчыне.

А вось што піша Чэканоўскі аб Беларусі (стар. 225—7):

«Фактарамі, якія ўскладняюць прастату агульнага ўкладу антрапалагічных адносін на беларускай прасторы з'явіліся два вялікія міграцыйныя рухі. Першым было адступленне на поўнач усходне-славянскага насельніцтва, выкліканае наезніцкімі мангольскімі ды турэцкімі качэўнікамі, другім — паслядоўнасці, якія выніклі ад авалодання варагамі дняпроўскага шляху. Шлях Дняпра паслужыў утрыманню сувязяў паміж Скандынавіяй і Візантыяй, аб чым сведчаць гістарычныя крыніцы адносна IX стагоддзя.

Ужо А. Шахматаў, вядомы рускі дыялектолог, звяртаў увагу на тое, што наезд авараў выклікаў эксодус значных мас насельніцтва за багны Палесся аж у ваколіцы Навагрудка. У заходняй зоне гэтае змяшчэнне з поўдня на поўнач зазначаецца слаба і абмяжоўваецца да ўзмацнення лапонаідальнага элемента ў яе паўднёвай частцы, мяжуючай з Палессем. Аднак жа ва ўсходняй зоне зазначаецца гэта надта выразна не сцверджанай у заходняй зоне перавагай — тыповай для паўночнай Украіны — дамешкі арменаідальнай над міжземнаморскай. На беларускай прасторы з'яўляецца гэта вынікам прыплыву палескага насельніцтва, абеларушчанага на сваім паўночным рубяжы. Працэс абеларушчвання з'яўляўся несумненнай паслядоўнасцю ўздзеянняў літоўскай дзяржаўнасці і тагачаснай культурнай перавагі беларусаў, мова якіх была афіцыйнай мовай Літоўскай Дзяржавы ў перыяд яе вялікай экспансіі. Антрапалагічны склад насельніцтва Грэска сведчыць аб тым, што накіраванае на поўнач змяшчэнне сягнула аж па даўнейшы Барысаўскі павет.

Дагэтуль адзіным антрапалагічным следам скандынаўскіх варагаў з'яўляліся чэрапы нібыта ўсходніх крывічоў, выкапаныя В. М. Чабышавай у Дарагабускім павеце колішняй Смаленскай губерні, даследаваныя К. Н. Ікавым, які не ўсведамляў сабе іх скандынаўскага паходжання. Зараз шмат пэўнейшага доказу далі даследванні В. Бунака (1932). Яго серыя Магілёўскіх Беларусаў прадстаўляе нардычную фармацыю, літаральнага тыпу, якую на тэрыторыі Усходняй Славяншчыны трэба лічыць скандынаўскім рэліктам, астанкам».

Далей Ян Чэканоўскі, антраполаг сусветна вядомы, піша:

«Няма сумненняў, што панаванне варагаў на дняпроўскім шляху на працягу некалькіх стагоддзяў пакінула ўлоўныя антрапалагічныя сляды».

Чэканоўскі паклікаецца яшчэ на даследванні Пянткоўскага, Раждзественскага, і іншых, якія займаліся Беларуссю.

*С. Яновіч*

---

Jan Czekanowski, Człowiek w czasie i przestrzeni, PWN, Warszawa, 1967.

# ШАСЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ



Сёлета вядомая беларуская паэтэса Ларыса Геніюш адзначае сваё шасцідзесяцігоддзе. Нарадзілася пад Ваўкавыскам, у Гудзевічах, у 1910 годзе.

Зараз паэтэса пражывае ў мястэчку Зэльва на Гродзеншчыне.

У Ларысы Геніюш сардэчныя сувязі з нашай Беласточчынай — тут шмат яе знаёмых, тут частка яе радні, частка адчування роднага. Цяжкі жыццёвы лёс, які выпаў на яе долю ў мінулым, з'явіўся прычынай таго, што творчасць паэтэсы ўсё яшчэ застаецца малавядомай маладому беларускаму пакаленню ў нас. Першая, кніжка вершаў паэтэсы выйшла ў свет у 1942 годзе ў Празе Чэшскай — у грозны час вайны. Другі зборнік — «Невадам з Нёмана» — надрукаваны ў выдавецтве «Беларусь» няцэлых два гады таму назад.

Паэзія Ларысы Геніюш, глыбока эмацыянальная і задуменная, з'яўляецца трывалым здабыткам беларускай культуры.

Вось кароценькі верш паэтэсы, які чытаецца, як крэда яе:

*Воля — не тое, што рукі развяжуць,*
*зменяць на большую клетку малую.*
*Воля — не тое, што*
*«вольны ты» — скажуць.*
*Воля — то воля, якую адчую.*

Меў я магчымасць наведаць Ларысу Геніюш у зэльвенскіх гасцінных парогах яе хаты. Засталося ў мяне тады ўражанне, якім потым не раз я сам карыстаўся: упартасць у імкненні да пастаўленай мэты. Назвы таго розныя: жыццесцвярджальнасць, актыўнасць, радаснасць, ідэйнасць... Сапраўднае жыццё вызначаецца, менавіта, упартасцю, прадыктаванай сэрцам і розумам.

Жыццё Ларысы Геніюш — узор таго. З нагоды шасцідзесяцігоддзя нараджэння паэтэсы хочацца выказаць удзячнасць ёй за зробленае для нашай культуры — і пажадаць ад сэрца яшчэ доўгіх ды плённых творчых гадоў.

*Сакрат Яновіч*

# ГОСЦІ з Гродзеншчыны

У другой палове жніўня пабывала ў Беластоку і ваяводстве дэлегацыя камсамола Гродзенскай вобласці: Ядвіга Спургаш — сакратар абкома камсамола, старшыня дэлегацыі, Ядвіга Шукаловіч, Галіна Барух, Мікалай Русін і Якаў Трухаў, сакратары райкомаў камсамола.

Дэлегацыя пабывала ў нас па запрашэнню ваяводскіх праўленняў ЗМС, ЗМВ і ЗГП і знаёмілася з формамі і напрамкамі дзейнасці нашых маладзёжных арганізацый. Госці між іншым наведалі ваяводскі цэнтр падрыхтоўкі і адпачынку актыву ЗМС у Борках каля Аўгустова, пабывалі ў гуртку ЗМВ у Казеніцах Беластоцкага павета, адбылі шмат сустрэч з маладзёжнымі дзеячамі Беласточчыны.

Адной з сустрэч было спатканне з Прэзідыумам Камэнды харугві ЗГП. Гэтая сустрэча адбылася ў памяшканні святліцы спулдзельні «Захэнта», якая вядзе супрацоўніцтва з ЗГП і існуе тут гарцэрскі інструктарскі шчэп.

Камендант харугві З. Каманоўскі і прысутныя інструктары гарцэрства расказалі госцям, як дзейнічае дзіцячая арганізацыя ў іх месцах жыхарства.

У часе сустрэчы гродзенскія госці атрымалі з рук З. Камяноўскага флажок, які здабывалі гарцэры Беласточчыну ў ленінскім годзе. На флажку выпісаны вынікі гарцэрскай акцыі «Іскра—70»: у кампаніі «Іскра—70» удзельнічала 100 тыс. гарцэраў, 74 тыс. здабыло спраўнасць «Іскра», у часе арганізацыйных ленінскіх суботнікаў гарцэры перапрацавалі 169 тыс. рабочагадзін.

*А. К.*

*фота Паўлоўскі*



*Я. Спургаш запісваецца ў хроніцы Камэнды Харугві, побач З. Камяноўскі.*




На пагранічы Бельскага павета і Гайнаўшчыны ёсць вёска Шчыты. Па сапраўднасці гэта не адна, а дзве вёскі з двума солтысамі і дзвюма малочнымі злеўнямі, злучаныя паміж сабой папярэчнай вуліцай, адзіным гээсаўскім каапературам, сельскагаспадарчым гуртком, царквой і школай. Жыццёвай патрэбай асяроддзя аказалася праблема супольнай для гэтых вёсак святліцы, якую абмеркавалі залажыць у школьным будынку, дзе ад некалькіх год навучае толькі адзін настаўнік. Вядома, адзін настаўнік змяшчаўся са сваёй праграмай у адной зале, а другая выкарыстоўвалася на грамадскія сходы, штотыднёвыя высвятлянні фільмаў і іншыя патрэбы існуючых арганізацый. Моладзь, калі хацела затанцаваць, павінна была радняволя (каб задаволіць настаўніка) падрыхтаваць якую-небудзь пастаноўку або песні ў рамах культурна-асветнай работы. Тады моладзь падвоіла намаганні і павятовыя асветныя ўлады дзеля развіцця культуры пастанавілі пайсці насустрач яе жаданням і сапраўдным патрэбам старэйшага насельніцтва. Дазволілі арганізаваць у свабоднай школьнай зале «Клуб маладога гаспадара», што і было зроблена ў рамах павятовага плана, а мясцовы настаўнік абяцаў арганізацыйную дапамогу. Гмінная спулдзельня ў Орлі ўзялася забяспечыць клуб усім неабходным і арганізаваць яго працу. Наперакор траскучым маразам, ужо ў студзені закіпела работа. За добраахвотныя складчыны закупілі матэрыял і грамадскім чынам перагарадзілі калідор, робячы новы ўваход і лесвіцу. Мясцовы сельскагаспадарчы гурток закупіў аконныя заслоны і карнізы, а ГС пачаў дастаўляць столікі і крэслы. Не забыліся амаль на самым пачатку даставіць прылавак і тавары. Каб не нудзілася пры каве і аранжадзе паявіліся на століках шашкі і шахматы, а нават адрамантаваны адаптар з некалькімі пласцінкамі.

На дапамогу новай культурнай установе выбралі савет клуба, а заангажаваная ГС-ам кіраўнічка клуба пачала ўжо ад канца лютага прадаваць дававожаныя тавары і наліваць каву.

Здавалася б, усё пойдзе, як па масле, і пачне культура ўваходзіць шырокімі крокамі, але, на жаль, пакуль што, яшчэ нішто на лепшае не змяняецца. Праўда, выпіць каву ці аранжаду за столікам вельмі прыемна, і пагутарыць можна, але адаптар амаль заўсёды так раве, што пачытаць газету немагчыма. Абяцанага тэлевізара як не было, так і няма, і сельскагаспадарчы гурток не можа перадаць сваіх кніжак для павышэння аграрнай культуры, бо не абсталявана патрэбная для гэтага шафка. Моладзь і падлеткі чуюцца ў гэтым гомане па-свойму добра, а падпіўшы прынесенага віна на траўцы за клубам — нават весела. Клуб адкрываецца ў нядзелю і свята пад вечар, а ў буднія дні — перад захадам сонца, або на змярканні, так што людзі называюць яго «начным кабарэтам». Найбольш весела і шумна бывае ў клубе, калі моладзь (чамусьці дзяўчаты) арганізуе білетныя забавы з аркестрам. Тады з'язджаюцца з бліжэйшага і далейшага наваколля ўсе, хто хоча патанцаваць ці пазнаёміцца — і матацыклы шчыльна застаўляюць школьную загарадзь. Аркестр з барабанам «рэжа» да самага рання, а як адчувае сябе сям'я настаўніка, якая жыве над клубам — цяжка ведаць... Пасля такой гульні ўжо трухлявая школьная агарожа траціць сваю вытрымку, а з-пад яе штыкет месцамі разносіцца непрыемны запах вельмі падазронага паходжання.

Пакуль што, клуб у асноўным з'яўляецца дадатковым ГС-аўскім пунктам продажу тавараў дробнага асартыменту, і калі праяўляе што-небудзь іншае, то толькі аднабаковую дзейнасць выключна развесяляльнага характару. Цяпер адзіным культурна-асветным днём тыдня можна лічыць пятніцу, калі высвятляюцца, як і раней, фільмы, а гэта напэўна замала. Ад часу існавання клуба нічога больш не адбылося... Неабходна тут актыўнае ўмяшанне арганізаванай у ЗМВ і БГКТ моладзі, якую не задавальваюць толькі шумныя патанцоўкі. Хочацца верыць, што апраўдае яна давер свайго асяроддзя, а ГС не паскупіць у далейшым патрэбнай фінансавай дапамогі і давядзе да канца распачатую добрую справу. Нягледзячы на шматлікія недахопы, важна ўжо тое, што клуб існуе, і жыхары маюць для сваіх патрэб нейкі прытулак.

*У. Назіральнік*
*Бельскі павет*




Верасьнёўскі нумар беластоцкага грамадска-культурнага месячніка «Кантрасты» адкрывае артыкул «На пераломе двух пяцігоддзяў», аўтарам якога з'яўляецца намеснік старшыні прэзідыума ВРН у Беластоку — Рамуальд Лазаровіч. Праводзіць ён агляд культурных дасягненняў ваяводства.

«Мы маем абаснаваныя імкненні, каб першынстваваць, каб астаўляць след на культурнай карце краіны, — піша ён. — Пацвярджэннем гэтых імкненняў з'яўляюцца, між іншым, наступныя мерапрыемствы з гэтага года; VI жывапісны пленер у Белавежы, II скульптурны пленер у Гайнаўцы, I агульнапольскі фестываль самадзейных фільмаў грамадскага характару і Агульнапольскі конкурс акардэаністаў, які згодна з намерамі культурных улад ваяводства ў 1974 годзе мае быць пераіменаваны на Міжнародны конкурс і кангрэс акардэаністаў».

На жаль, Р. Лазаровіч у сваім аглядзе забыў хаця б успамянуць пра культурную і літаратурную дзейнасць БГКТ.

Сярод іншых матэрыялаў на нашую ўвагу асабліва заслугоўвае артыкул Балеслава Рэшкі «Чаму яны гэтае рабілі?». Апісвае ён зверскія паводзіны гітлераўскага вермахта ў мясцовасцях: Мілейчыцы, Слохі Аннапольскія, Вулька Надбужанская і Клекатова, дзе яны бязлітасна расстрэльвалі бездапаможных людзей.

Затым варта прачытаць: пра гісторыю і сучаснасць горада Голдап, пра даследванне шведскім вучоным, прафесарам Фалькам, моўнай старажытнасці на тэрыторыі сувальскіх і алецкіх азёр, пра становішча ў пачатковым школьніцтве, аб чым піша віцэ-куратар Станіслаў Раман, пра дзейнасць нямецкіх перасяленцаў з паўночных паветаў Беластоцкага ваяводства, пра кантакты горада Алецка з французскім горадам Марлі, пра пабыўку беластоцкага лялечнага тэатра на Венгрыі, пра польскія справы ў беларускім друку. (вр)

# ШКОЛЫ НА САКОЛЬШЧЫНЕ

Школы на Сакольшчыне, пераважна слаба цікавяцца закупкамі беларускай літаратуры для сваіх вучнёўскіх бібліятэк. Калісьці віну ўскладалі на кнігарню ў Саколцы, якая фактычна не старалася мець на сваім складзе беларускіх кніжак. Нядаўна мы наведалі сакольскую кнігарню і пераканаліся, што ёсць у ёй шмат кніжак на беларускай мове, шмат дзіцячай і маладзёжнай літаратуры, што асабліва пахвальнае. Прытым маецца тут асартымент падручнікаў, патрэбных у навучанні прадмета беларускай мовы ў школах.

У гутарцы з работнікамі кнігарні мы даведаліся, што, бадай, адзінай установай, якая робіць тут больш-менш рэгулярныя закупкі беларускіх кніжак, з'яўляецца Павятовая бібліятэка. Кіраўнікі школ з беларускай мовай або настаўнікі беларускай мовы — вельмі рэдкія госці сакольскай кнігарні. Гэта смутная з'ява абыякавасці павінна быць хутка ліквідавана. Гэтае сцвярджэнне кіруем перш за ўсё ў адрас павятовых асветных улад, якія, калі захочуць, адпаведна зацікавяць настаўнікаў. (ся)

Пачатак на стар. 1



# Мастакі ў Белавежы

стараюся ў рэальным свеце знайсці нейкія асноўныя, характэрныя прыкметы, шмат чаго добрага навучыўся я ў народных, самадзейных мастакоў.

Заводжу яшчэ гутарку з прадстаўнікамі Савецкага Саюза. Гэта Антанас Марцінайціс і Рычардас Вайтэкунас. Яны літвіны, прыехалі з Каўнуса. Абодва вельмі яшчэ маладыя мастакі. Хваляць ўмовы да працы і дзякуюць арганізатарам пленеру за запрашэнні.

— Асабліва істотнае для нас тое, — гаворыць Рычардас Вайтэкунас, — што ў такім шырокім ды на дабавак міжнародным мастацкім асяроддзі маем амаль на кожным кроку шырокія магчымасці заводзіць творчыя спрэчкі. Тут сабраліся мастакі, якія па творчых імкненнях прадстаўляюць самыя розныя напрамкі, якія толькі можна знайсці ў сучасным свеце. Спрэчкі тады дапамагаюць ўзаемнаму зразуменню і сяброўскаму прыбліжэнню.

А першай гадзіне мастакі збіраюцца на абед. У светлай залі рэстарану пах яды. Прысядаюся да століка, дзе сабралося · чалавек 6 з розных куткоў Польшчы: з Варшавы, Кракава, Зялёнай Гуры, Гданьска, · Кельцаў... Белавежскі пленер стаўся аглядам творчых сіл усяе нашай краіны.

— Уражанні? Цудоўныя! Асабліва незабыўны астаецца першы вечар, калі арганізатары наладзілі нам канцэрт музыкі Бетховена пры святле свечак. Манументальная музыка, шум пушчы ды імглівае святло свечак. Настрой не да апісання. У тым адчувалася штосьці характэрнае для тутэйшай усходняй культуры. Надоўга астанецца ў памяці.

Гэтая Бетховенская музыка не выпадкова ўмешвалася ў шум белавежскіх дубоў і соснаў. Людвік ван Бетховен, з нагоды яго двухсотай гадавіны з дня нараджэння, стаўся на гэты раз апякунчым духам мастакоў у Белавежы.

На развітанне з Белавежай і мастакамі яшчэ раз звяртаюся да камісара пленера.

— На жаль, — сцвярджае ён, — не ўсё што мы планавалі, зможам ажыццявіць. Не хапае грошай. Асабліва падвялі нас прафсаюзы.

*Віктар Рудчык*

*Фота: Цаф — Сянько*



*У белавежскім гатэлі «Іва» мастак Крыстына Дамбравецка-Барысоўска з Гданьска.*



*Нусрэт Хрвановіч дэманструе адзін са сваіх малюнкаў, якія выканаў у Белавежы.*

# Блакітная дружына



У камінковым памяшканні Камэнды харугві ЗГП у Беластоку сабраліся людзі рознага ўзросту і розных прафесій. Запрошаным журналістам вядома толькі тое, што мае гэта быць прэс-канферэнцыя аб 25-годдзі стварэння дзевятай гарцэрскай дружыны на Беласточчыне пасля вызвалення. Хтосьці з кіраўніцтва харугві дае ўступнае слова.

— Можа нейкія пытанні? — звяртаецца вядучы да прысутных журналістаў.

Цішыня. Потым нехта прапануе агульнае знаёмства. Устаюць пажылыя, у сярэднім узросце і зусім маладыя людзі: галоўны энергетык, дацэнт, ляснічы, працаўнік адміністрацыі, студэнт, вучні. Нехта просіць, каб расказалі, як узнікла гарцэрская дружына «Блакітная дзевятка».

— Дэц, інжынер Дэц, пачынай! — хорам загаварылі ўсе. — Ты ж — першы дружыновы!

Інжынер *Ян Дэц*, галоўны энергетык, нясмела паварушыўшыся на крэсле, пачаў:

— Арганізаванне нашай дружыны ЗГП пачалося недзе ў лютым 1945 г. пры гімназіі і ліцэі № 2. А дружыновым я стаў таму, што ў той час быў я адзіным функцыйным. Тады быў зусім іншы час, ваенны. Чуліся лёты самалётаў, раненыя салдаты ў бальніцах. Адны вярталіся з фронту, другія — на фронт... Асноўным заданнем дружыны тады было хадзіць і збіраць недапаленыя бярвенні, каб потым магчы напаліць у школьнай печцы.

Уключаецца *Ю. Якавіцкі*, зараз дацэнт доктар, навуковы супрацоўнік беластоцкай медыцынскай акадэміі:

— Для мяне гарцэрства ў той час — гэта была Польшча. Часта вяртаюся да часоў майго і маіх калег дзяцінства, ацэньваю. Мне здаецца, што галоўнае, што ў нас вырабіла гарцэрская дружына, — гэта дысцыпліна. Многія з нас, былых членаў «Блакітнай дзевяткі» маюць розныя пасады і, наколькі мне вядома, кожны вылучаецца здысцыплінаваннем у працы. Зразумела, традыцыяй нашай дружыны з'яўляецца выхаванне праз працу. Дэц гаварыў аб 45-ым. Я малодшы і дасканала памятаю пазнейшы перыяд — 48-ы год. Тады мы выязджалі на будову дарог на звернутыя землі. Памятаю, што з харчамі тады было нявесела, дык мы варылі паперу, якой была выцелена кансерва. Але ніхто ніколі не наракаў...

З дружыны беластоцкай «дзевяткі» выйшла многа больш і менш знаных асоб (м. інш., Ю. Афанасьеў — паэт і рэжысёр). Зараз пражываюць яны ў розных гарадах і мясцовасцях, але звязаны з Беластокам праз актыўную дапамогу дружыне. Група былых гарцэраў арганізавала гурток прыяцеляў гарцэрства, які ахвяраваў дружыне сцяг і падтрымоўвае ўсе пачынанні дружыны.

Гаворыць наймалодшы, цяперашні дружыновы *Я. Назарка*, студэнт ВСІнж.:

— Чаму хочам навучыць? Таму, чаму вучылі нас нашыя папярэднікі. Хочам выкарыстоўваць дасягненні мінулага 25-годдзя, перш за ўсё, вучыць моладзь шанаваць працу і працоўных. Дзеля гэтага ў кіраванай мною дружыне амаль кожны дзень хтосьці працуе фізічна. Калі нам патрэбныя грошы, стараемся іх зарабіць. Дзесяць тысяч злотых, якія дружына зарабіла на працягу двух год, аб чымсьці сведчыць. Калі хто-небудзь з нас акажацца ў клапатлівай сітуацыі, з дапамогаю прыходзяць члены гуртка прыяцеляў ЗГП. Проста маем да каго звярнуцца...

Размова і расказы цякуць. Адчуваеш, што ты ў адной сям'і, якую з'яднала любоў да працы, пашана да калектыву, любоў да свайго гнязда.

Застаюся адзін са сваімі думкамі і раздумваю: ці, скажам, такія сувязі старэйшых і маладых — гэта не найлепшая школа выхавання і патрыятызму?

*А. Карпюк*

# ◆ Музей, які зацікавіў тысячы ◆

У Беларускім музеі ў Белавежы людна. Экспанаты беларускай матэрыяльнай культуры Беласточчыны агледзелі дагэтуль тысячы, дзесяткі тысяч людзей з цэлай Польшчы, краін Еўропы, а таксама з іншых кантынентаў свету. Сваім існаваннем гэты музей ставіць добры помнік ініцыятарам яго ўтварэння — беларускаму актыву.

А вось некаторыя даныя за апошні час дзейнасці музея. У месяцы маі пабывала ў ім 728 асоб. У чэрвені завязалася супрацоўніцтва з музеем Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства: лік наведвальнікаў раптоўна павялічыўся ў гэтым месяцы да 3.416 асоб. У ліпені — 4.525 асоб. За месяц жнівень яшчэ не было дакладных падлікаў праданых білетаў уступу, але і так відаць, што лік наведвальнікаў будзе каля чатырох тысяч.

Сёлета пабывала ў музеі каля васьмісот замежных турыстаў — з Германіі, Саюза ССР, Англіі, Галандыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Францыі, Швейцарыі, Швецыі, Балгарыі, Даніі і інш.

Музею цесна ў гэтым будынку. Адразу можна экспанаваць усяго чацвёртую частку маемых экспанатаў, якіх каля тысячы. Адчынены музей *штодзень* паміж 8—15 гадзінамі, *апрача панядзелкаў* і дзён паслясвяточных, калі ён зачынены.

Адрас музея: *Белавежа, вуліца Стачок, 54.* (ся)

Пачатак на стар. 1

# У лесе над возерам

міжнароднай палітыкі, які прыехаў спецыяльна сюды, каб пагутарыць з беластоцкай моладдзю. Дыскусія была бурлівая. Моладзь мае шэраг пытанняў і шэраг закідаў у адносінах да старэйшых. Моладзь лічыць, што друк наш усё яшчэ недастаткова хутка і дакладна інфармуе чытача аб падзеях у краіне і на свеце, што ў гаспадарцы шмат хібаў і недагляду. Прамоўца з многімі справамі згаджаецца. З некаторымі не згаджаецца. Вывязалася палеміка. Добра. Гарачыя дыскусіі найлепш сведчаць аб палітычнай актыўнасці моладзі.

Моладзь з Гайнаўкі прыехала ў лагер са сваім эстрадным калектывам. 5-асабовы інструментальны калектыў гайнаўскага рамесніцкага цэху «Лясное рэха» амаль штовечар выконваў тут папулярныя маладзёжныя песні і мелодыі. Было весела і прыемна.

*Ул. Паўлючук*



Адгалоскі

# Беларуская мова „Нівы“

Чытаючы «Ніву», я заўсёды звяртаю ўвагу на яе мову. Трэба сказаць, што з кожным годам мова «Нівы» ўсё лепшая, усё менш такіх ці іншых недахопаў. Зразумела, яна розніцца ад мовы мінскіх газет. Гэта адрозненне па многіх прычынах непазбежна, так як непазбежны былі розніцы паміж друкаваным словам у Мінску і ў Вільні ў міжваенны перыяд.

Таму, што «Ніву» чытаюць не толькі ў Польшчы, але таксама і на Беларусі, дый на шырокім свеце, мова яе павінна быць зразумелай для ўсіх беларусаў, не толькі для жыхараў Беласточчыны. Дзеля таго трэба намагацца, каб беларусчына «Нівы» набліжалася да сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Само сабой разумеецца, што ў нашых умовах немагчыма будзе зусім пазбегнуць паланізмаў, асабліва ў назвах установ, арганізацый і г.д. Але і тут можна сёе-тое змяніць. Скажам, калі замест «рады нарадовыя» мы напішам народныя рады, усе зразумеюць, пра што тут гутарка. Каб зразумець словы «спулдзельня, прэзас», трэба ведаць польскую мову. А чаму ж не пісаць кааператыў, старшыня.

Некаторых адхіленняў ад літаратурных норм можна пазбегнуць, калі мы толькі большую ўвагу звернем на тое, што пішам. У адным з рэпартажаў журналіст кажа, «што брамка адкрывалася і закрывалася». Аднак жа па-беларуску вароты, брамы, брамкі, дзверы, вокны адчыняюць і зачыняюць, а вочы расплюшчваюць і заплюшчваюць. Часта даводзіцца чытаць у «Ніве», што нехта «ажаніўся на кім», а павінна быць «ажаніцца з кім».

Кожная мова ў сваім развіцці ўзбагачаецца новымі словамі, якія ўтвараюцца на аснове ўласнага слоўнага матэрыялу, але часта прысвойваюцца словы з суседніх моваў. Перш за ўсё літаратурная мова павінна ўзбагачацца словамі, якія спакон вякоў бытуюць у народнай мове, або якія ўзніклі нядаўна, але ўжо распаўсюдзіліся і замацаваліся. І таму кнігарня павінна ўзяць верх над «кніжным магазінам».

У адным з сваіх фельетонаў пад загалоўкам «Мова ты родная»... («Ніва» № 12 з 22.3.1970 г.) рэдактар Ада Чэчуга закранула вельмі важную праблему, праблему разумення мовы «Нівы» яе чытачамі. Быў там паказаны прыклад, як вясковы дзядзька прышоў у рэдакцыю «Нівы», каб даведацца, дзе можна дастаць «вяршкі» — складовую частку леку ад экземы. Аказалася, што селянін ніяк не мог здагадацца, што гэтыя нясчасныя «вяршкі» — гэта смятанка. Праўда, слова «вяршкі» ёсць у слоўніках у значэнні смятанкі, але заўсёды недзе на другім, ці трэцім месцы пасля смятанкі. Значыць, гэтыя «вяршкі» менш пашыраны, а гэты малочны прадукт называецца салодкай смятанай, або смятанкай. У заканчэнні фельетона рэдактар Ада Чэчуга заклікае «больш рашуча ўводзіць многія словы, якіх і са свечкай не знойдзеш у слоўніках».

Гэта правільна, аднак я хацеў бы зрабіць тут бадай адну засцярогу. Зразумела, што слоўнікі не ахопліваюць усяго багацця мовы і аўтар не можа абмяжоўвацца да слоўнікавай лексікі. Але і ў слоўніках ёсць шмат слоў, якія рэдка або зусім не сустракаюцца ў друку. Перш за ўсё гэтыя словы трэба ажыўляць.

Сярод слоў, якія аўтар фельетона прапануе уводзіць (вось яны: нуртаваць, падчас, справункі, зрэшты, смятанка, не забракнуць, мусіць, фатыгавацца, замнога, пахопна), ёсць два яўныя паланізмы: нуртаваць і пахопна. Астатнія словы ўжываюцца ў беларускай мове і бадай што ўсе знаходзяцца ў слоўніках. Магчыма, што *нуртаваць* і *пахопны* ўжываюцца сярод беларусаў Беласточчыны. Усё ж такі я не раіў бы імі карыстацца. Нуртаваць — гэта па-беларуску непакоіць, турбаваць, а пахопна — гэта соспеху, непрадумана.

Беларуская мова пераняла з польскай мовы шмат слоў. Дастаткова ўзяць у рукі «Падручны польска-беларускі слоўнік», выдадзены ў Варшаве ў 1962 г., каб у гэтым пераканацца. Гэта вынікае з гістарычных адносін паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай на працягу XV—XVIII стагоддзяў. І так, у беларускай мове замацаваліся між іншым: шкло, шклянка, ганак, гузік, гарбата, якую цяпер выціскае чай. Але гарбата захавалася ў прыказцы: «Што кажух — то не вата, а што капуста — то не гарбата».

І яшчэ адна заўвага. У апошнім нумары «Нівы» з 23.8.70 г. прачытаў загаловак артыкула «Нашая пушча». Недзе раней бачыў я ў «Ніве» — «нашыя паэты». У сучаснай літаратурнай мове замацаваліся наступныя формы займенніка наш: *наш* паэт, *наша* пушча, *наша* заданне — у адзіночным ліку, а ў множным ліку існуе толькі адна форма: нашы— нашы паэты, нашы пушчы, нашы заданні.

Беларуская мова — гэта мова прыгожая, гэта мова багатая. Сучасная літаратурная мова яшчэ вельмі маладая. Трэба лічыць, што яна пачала фармавацца з таго часу, як у Вільні пачала выходзіць у 1906 г. «Наша Ніва», а сапраўднае яе развіццё, якое і далей бурна працягваецца, пачалося ад Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая дала Беларусі свой дзяржаўны быт у межах Савецкага Саюза.

*Баляслаў Манкевіч*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### НА ЖНІЎНЫМ ФРОНЦЕ

Пасля доўгатрывалай, шматснежнай зімы наступіла ў нас дажджлівае лета. Тысячы гектараў жыта прапала на весну ад снежнай плесні, а пасля дождж прадоўжыў час даспявання астаўшагася збожжа. Натура, быццам заўзялася, каб у гэтым годзе надакучыць гаспадарам. Барацьба за хлеб (заўсёды вельмі важная) у гэтым годзе мела прыкметы асаблівай важнасці.

Што тады чуваць на жніўным фронце?

### У НАРВЕ

Аграном Канстанцін Наумчык і працаўнік нараўскай ГРН інфармуюць мяне, што гаспадары на іх тэрыторыі да нядзелі 23 жніўня жніво амаль закончылі, засталася яшчэ дзе-недзе ярына, і нават запісалі яны першага пастаўшчыка збожжа на скупачным пункце. Быў ім *Дзям'ян Самойлюк* з Янава, які 20 жніўня г.г. прадаў дзяржаве 485 кг жыта.

7 чэрвеня гэтага года некаторыя куткі нараўскай грамады моцна пацярпелі ад граду. Асабліва многа шкоды нарабіў ён у вёсках Даратынка, Янава і Качалы. Як сцвярджае Васіль Дзмітрук, у некаторых месцах град выбіў збожжа нават да 90 працэнтаў.

### У НАРАЎЦЫ

Сакратар ГРН Валянціна Белюк гаворыць, што ў іх жніво праходзіла спраўна і хутка. Сяляне карысталіся жняяркамі і снапавязалкамі. Аднак і тут бяда: вясною амаль палавіну асенніх пасеваў прышлося заараць — шмат жыта і азімую пшаніцу, якой там сеюць вельмі мала, з'ела снегавая плесня. Таму не спадзяюцца ў нараўкаўскай грамадзе высокіх ураджаяў. Першыя абмалоты паказваюць, што жыта будзе ўсяго нейкіх 12 цэнтнераў з гектара.

Нягледзячы на тое, гаспадары ўжо дастаўляюць збожжа дзяржаве. Свае абавязацельствы выканалі Аляксандр Трусевіч з Міклашэва, Міхаіл Весялоўскі з Лясной і Мікалай Кісялеўскі з Забалоччыны.

### У ЮШКАВЫМ ГРУДЗЕ

Тут маім інфарматарам з'яўляецца сакратар ГРН Мікалай Багнюк.

— Асталося, — гаворыць, — яшчэ крыху ярыны. Гаспадары выкарыстоўваюць спрыяльнае надвор'е і хутка звозяць збожжа ў клуні. Жніво праходзіла даволі спраўна. У самых цяжэйшых працах, усюды, дзе толькі было гэта магчыма, людзей выручалі машыны. Пабудавалі мы ў Юшкавым Грудзе прыгожую і прасторную міжгуртkоўскую машына-трактарную базу. Тэхнікі нам пакуль што хапае. Рэдка дзе даводзілася бачыць чалавека з касой. Каваль Хведар Баршчэўскі з Бандароў, уласнік майстэрні па вырабу сярпоў, зусім у гэтым годзе не меў заказчыкаў. А не так яшчэ даўно прадаваў ён у сезоне па дзвесце сярпоў.

Ураджай у нас аднак слабейшы ад мінулагодняга: жыта — 12—13 цэнтнераў з гектара, а пшаніца і авёс па нейкіх 18 цэнтнераў.

Першымі пастаўшчыкамі збожжа для дзяржавы ў Юшкавым Грудзе аказаліся Язэп Пшывазінскі і Яўгень Самайлюк. Гэты апошні даставіў на скупачны пункт аж 4 тоны жыта.

### У СІДРЫ

Да нядзелі 23 жніўня аставалася там на полі яшчэ частка пшаніцы і аўса. Ураджай ў сярэднім — 16—17 цэнтнераў з гектара. Сяляне касілі збожжа ў асноўным снапавязалкамі, аднак і за косы таксама вельмі часта браліся. Першымі пастаўшчыкамі збожжа аказаліся тут Баніфацы Балкунт з вёскі Шастакі і Пётр Бажан з Макаўлянаў.

### У КРЫНКАХ

Паводле апініі сакратара ГРН у Крынках Мікалая Пуцілоўскага, да ўборкі аставалася яшчэ крыху аўса і частка ячменю. Жыта было скошана, але многа яшчэ яго аставалася ў снапах на полі. Дождж не дазваляў яму высахнуць. Здаралася, што дзе-недзе жыта пачало ўжо расці ў снапах. Так што са збожжам тут бяда. На абавязковыя пастаўкі некаторыя гаспадары прывозяць яшчэ мінулагодняе жыта.

У Крынках існуе сельскагаспадарчы асяродак, які апрацоўвае дзяржаўную зямлю. У Паўночным Вастраве, у Крушынянах і Гуранах мясцовыя сельскагаспадарчыя гурткі таксама апрацоўваюць зямлю з дзяржаўнага фонду. У гэтых мясцовасцях працавалі сёлета збожжавыя камбайны. Дык праца ішла спраўна. У крынкаўскім сельскагаспадарчым асяродку ўраджай з 20 гектараў, дзе працаваў камбайн, склаў 17 цэнтнераў з гектара.

* * *

З гэтага кароткага агляду становішча на жніўным фронце ў Беластоцкім ваяводстве вынікае, што няма асноў, каб цешыцца сёлеташнім жнівом. Гаспадары ваяводства планавалі, што сярэдні ўраджай для ўсёй Беласточчыны складзе нейкіх 19—20 цэнтнераў з гектара. Аказваецца, што не хопіць нам да плана нейкіх 5—6 цэнтнераў. Неспрыяльнае надвор'е прымусіць нас вярнуцца да ўзроўню з-прад 3—4 год. Гэта вялікія страты.

*М. Нурэцкі*

*Карэспандэнцыя з Мінска*

# ПАЛАЦ ДЛЯ РАБОЧЫХ

Будавалі яго не адзін год — дом са шкла, бетону і сталі. Сучасная архітэктура, цудоўны выгляд у сярэдзіне, багатыя ўпрыгожанні, прыгожая і выгодная мэбля — такі Палац культуры Мінскага камвольнага камбіната імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі.

Палац пабудаваны па праекту аднаго з лепшых архітэктараў рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Сяргея Мушынскага. Па сваім прызначэнні гэта будоўля адпавядае ўсім вымогам для правядзення культурна-масавых мерапрыемстваў і адпачынку працоўных. Палац мае глядзельную залу на тысячу месц, паваротную сцэну, танцавальную, балетную, спартыўную і дзве лекцыйныя залы, каля 60 пакояў для гуртковай работы.

У Палацы камбіната добра могуць адпачыць не толькі дарослыя, але і дзеці. Цяпер створаны і працуюць 34 калектывы мастацкай самадзейнасці і дзіцячай тэхнічнай творчасці, харавы, драматычны, эстрадны гурткі, вакальная студыя, музычна-літаратурны, лялькавы тэатры, студыя выяўленчага мастацтва, скульптурная студыя, аркестр народных інструментаў і іншыя. Актыўна працуюць адзінаццаць лекторыяў на грамадска-палітычныя і навукова-тэхнічныя тэмы.

Для самых маленькіх існуе свой клуб «Мурашнік» з пастаноўкамі лялькавага тэатра і мультыплікацыйнымі фільмамі. Для старэйшых дзяцей — клуб аматараў савецкай і зарубежнай літаратуры «Рамантык», патрыятычны клуб «Радзіма». Маладыя работніцы камбіната таксама маюць сваё аб'яднанне «Бірусінка», у якім дзяўчаты знаёмяцца з навінамі моды, касметыкі, з правіламі прыёму гасцей і г. далей. У Палацы працуюць клубы аматараў кіно, ветэранаў працы, народны універсітэт з факультэтамі музычнага мастацтва, педагагічных ведаў, кіно, мастацтва, тэхнікі і эканомікі.

Усёй гэтай шматбаковай дзейнасцю гурткоў, клубаў і секцый кіруе Савет Палаца на чале з дырэктарам Аляксандрам Аліевым.

Апрача мастацкай самадзейнасці, на сцэне Палаца часта выступаюць прафесіянальныя артысты. Яны не толькі паказваюць тут свае пастаноўкі, але і дапамагаюць удзельнікам самадзейнасці авалодваць сцэнічным мастацтвам. Асабліва шмат увагі гэтаму ўдзяляе калектыў Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага.

У Палацы кожны знойдзе сабе занятак па душы. Гумарысты могуць удзельнічаць у працы клуба «Вясёлых і знаходлівых», аматары літаратуры — ў дыскусіях. Тут праводзяцца таксама «Аганькі» і вечары дружбы з удзелам замежных студэнтаў, якія вучацца ў Мінску, і турыстаў, якія наведваюць беларускую сталіцу.

Дзеці камвольшчыкаў вучацца ў дзіцячай музычнай студыі па класе фартэп'яна, скрыпкі, акардэона, гітары, спяваюць у хоры.

Дзверы Палаца культуры адчынены для ўсіх. Майстар камвольнага камбіната Мікалай Бачыла і яго дочкі Святлана і Людміла разам спяваюць у харавым калектыве. Слёсар Віктар Перапечка і яго жонка Людміла — салісты танцавальнага калектыву. Але густы ў сям'і не заўсёды аднолькавыя. Начальнік ткацкага цэху Ілля Эйдэльмант, напрыклад, цікавіцца кінафільмамі, а яго сын Аляксандр наведвае фотастудыю. Але ва ўсякім выпадку кожны знойдзе сабе тое, што хоча.

...Калі на зямлю спускаецца вечар, людна робіцца ў Палацы культуры. Сюды сыходзяцца рабочыя і работніцы камбіната — яго сталыя наведвальнікі і паўнапраўныя гаспадары.

*Выконваецца танец «Ткачыхі».*

*І. Акшэўскі*

*Фота Э. Трыгубовіча*



*Палац культуры Мінскага камвольнага камбіната вечарам.*

# КАМІТЭТЫ ГІГІЕНІЗАЦЫІ

Ад 1960 года існуюць у Беластоцкім ваяводстве камітэты гігіенізацыі вёскі. Утварыліся яны першапачаткова ў Сакольскім, Сувальскім і Беластоцкім паветах, утварыліся, бо адчувалася патрэба стварэння органа, які б каардынаваў справы, звязаныя з гігіенай нашай вёскі. У 1967 годзе ствараецца камітэт гігіенізацыі і ў гэтым жа годзе ўзнікаюць камітэты гігіенізацыі ва ўсіх паветах.

Зараз у Беластоцкім ваяводстве налічваецца больш 160 грамадскіх і 159 вясковых камітэтаў гігіенізацыі вёскі. Найбольш грамадскіх камітэтаў, бо аж 25 налічвае Беластоцкі павет. У Сакольскім павеце зараз 19 грамадскіх камітэтаў і 140 вясковых, у Гайнаўскім — 17 грамадскіх камітэтаў гігіенізацыі. Адным з найбольш адстаючых паветаў па арганізацыі грамадскіх камітэтаў з'яўляецца Бельскі павет, дзе арганізаваны толькі 4 камітэты.

Чым жа характарызуецца дзейнасць гэтай установы? Перш за ўсё — актыўнае ўключэнне камітэтаў гігіенізацыі ў арганізацыю конкурсаў чысціні і эстэтыкі, працы грамадскім чынам і іншых. Варта ў гэтым месцы сказаць, што агульная вартасць працы грамадскім чынам, звязанай з конкурсам гігіенізацыі, больш 40 мільёнаў злотых. Апрача конкурсаў на найчысцейшы горад ці сядзібу грамадскай рады, камітэты гігіенізацыі арганізуюць конкурсы на найбольш азелянелую вёску, на найчысцейшую лесвічную клетку і т.п. Найчысцейшаю вёскаю, якая не з'яўляецца сядзібай ГРН, з'яўляецца ў Беластоцкім ваяводстве Новаалександрова.

Як вёска Новаалександрова, так і ўвесь Беластоцкі павет, мае найлепшыя вынікі ў гігіенізацыі. Праведзена тут інвентарызацыя калодзежаў і сметнікаў. Сяляне масава пачалі будаваць накрыўкі на калодзежы, прыбіральні, пры калодзежах ёсць сталыя вёдры.

У Гайнаўскім павеце перш за ўсё наставіліся на прафілактыку. У 49 вёсках праведзена навучанне гаспадароў у рамках гігіенізацыі. (ак)

# ДАСЯГНЕННІ І АПЕТЫТ

Як вядома, гаспадарчы год у сельскай гаспадарцы не збягаецца з каляндарным. Нядаўна падведзеныя вынікі гаспадарчага 1969/70 года ў Бельскім павеце сведчаць аб задавальняючым выкананні заданняў.

Асноўнай з'яўляецца праграма мінеральных угнаенняў. Што праўда, план гэты выкананы толькі на 91%, але гэта азначае 132% у параўнанні да мінулага года. У мінулым гаспадарчым годзе прымянялася ў павеце 60,3 кг мінеральных угнаенняў на кожны гектар, а ў 1969/70 г. — 78 кг.

— Аднак нашыя апетыты большыя, — сказаў сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Бельску тав. Мікалай Хурса. — Тое, што мы зрабілі комплекснае ўгнаенне на 30% зялёных угоддзяў, або што 45% гэтых жа ўгоддзяў змеліяравана, нас не задавальняе. Хочам арганізаваць калектыўнае кантраляванае ўгнойванне ўгоддзяў.

Справа мае выглядаць так: вызначаем дзень для данай воднай суполкі, калі гаспадары павінны выехаць з угнаеннямі і іх рассейваць. Тут будзе і аграном і іншыя спецыялісты, якія на месцы будуць бачыць дзе, хто, колькі і якія ўгнаенні сее. Калі не будзе вельмі мокра, будзем прымяняць механічнае рассяванне.

Чаму кантраляванае? Хочам ведаць, колькі сапраўды высяваецца на зялёныя ўгоддзі. Дагэтуль, паводле статыстык, на гектар зялёных угоддзяў нібы высявалася 200 кг. Але калі мы палічылі ўсе прададзеныя ў павеце мінеральныя ўгнаенні, дык аказалася, што ўсе яны пайшлі толькі і выключна на сенажаці, а вядома, што высяваліся яны і пад збожжа.

Генеральна і на першым месцы стаўляецца гэтая справа, таму што без добрага гаспадарання на зялёных угоддзях нельга палепшыць сельскай гаспадаркі ў павеце. Трэба памятаць, што глебы пад лугі і сенажаці тут найлепшыя і што з кожнага гектара зялёных угоддзяў можна атрымаць у 3—5 разоў больш кармоў, чымсьці з ворнай зямлі. (ак)

 

## АНЯМЕЛЫЯ РЭШТКІ

Аб гэтых ваколіцах пісаў я не раз, намаўляючы да знаёмства з імі ды навуковых даследванняў, такіх, як на Сувальшчыне.

Зараз за паўночна-ўсходняй сцяною Аўгустоўскіх бароў на поўдні Сэйненскага павета, людзі гавораць па-польску. Ад дзеда-прадзеда. Аднак музыка мовы іх польскай да таго ж беларуская, што пры першай сустрэчы з тутэйшым чалавекам здаецца ён гаспадаром быццам бы з-пад Гарадка, які палічыў абавязкам сваім размаўляць па-польску з «меставым панам».

Хлопчык суседа, белавалосы Ясь, пытае мяне:

— Chto z panam przyjechał?

— Syny, — адказваю я.

Ясь памалу знаёміцца з маімі хлопцамі, а я пачынаю непаспешлівую гутарку з гаспадаром прыазёрнай хаткі ў Кукдях.

— Chto tam wie: czy my Białorusy, czy Litwiny, czy Polaki...

Характэрнае — я не ставіў яму такога пытання: сам пачаў гэтакія разважанні, гаворачы, што за лясамі жывуць «Rusiny», г.зн. у даліне Бобры і далей на поўдзень, у Дуброўшчыне. (Чытаў я ў манаграфічнай апрацоўцы, што паўстагоддзя назад каля пяці працэнтаў насельніцтва Сэйненшчыны лічыла сябе беларусамі).

Мяне цікавілі назвы азёрных тоняў Паможа, пра іх гэта пытаў я. Налева ад Кукляў — першая затока за рэчкаю Кунісянкаю называецца «Podwierbka», за Падвербкаю — «Zimowa Drożka», за Дрожкаю паўвостраў: «Wysmały Rog», там часта гарэў лес, пажарныя высмалы паблізу выплыву рэчкі Марыхі. Азёрныя паўвостравы называюць тут: «рог», «рожак». Направа ад Куклёў — «Sani Rog», (ад саней?). Частку возера пад Гібамі, за вузенькаю цяснінаю, завуць «Ryczak» або «Ryczag» (ад рычага?). Затокі называюцца, пераважна, бухтамі (Герве-лева бухта, бухта пад возера Зэльва). Падводную мялізну называюць: «gorka». Такіх «горак» на Паможы дзве: улева ад выплыву Марыхі і насупраць хутара Плісевіча. На «горках» brakoniery ставяць жакі.

У куклёўскага старажылы, з якім вяду гутарку, ёсць свядомасць таго, што няпольскія гэта назвы навакольных мясцін ды азёраў: Zelwa, Wilkokuk, Dubowo, Gryngli (ziemia obok Kukli) itp. Не ведае ён гісторыі родных яму земляў, якія некалі з'яўляліся айчынаю яцвягаў, а пасля вынішчэння іх доўгі час былі лясной паўпустыняй, якую спачатку засялялі толькі дзе-нідзе літоўцы і беларусы. Польскае насельніцтва масава з'явілася пасля знікнення спусташальнай заразы тут у XVIII стагоддзі ў сувязі з актыўнай гаспадарчай дзейнасцю эканамічна моцнага Польскага Каралеўства ў 1820—40 гадах, да якога належылі гэтыя тады рэдканаселеныя ваколіцы. Межы польскай гутаркі прасунуліся далінаю Ганчы да Нёмана (цяпер Сапоцькінскі раён у БССР) і за Сэйны, некалі літоўска-беларуская мешаніна людзей і моваў.

Цяперашняя польская мова ў гэтых ваколіцах увайшла ў стадыю канчатковай крышталізацыі сваёй. У значнай меры вяжацца гэта з выміраннем старога пакалення. Апошняе «czołno» выдаўблі ў Кукдях каля паўстагоддзя таму назад: сучасныя лодкі лепшыя ад тамтых хібкіх даўбанак, якія яшчэ часамі стаяць па хлявах у якасці жолабаў коням. Часцей ужо вымаўляецца польскае «у-крэскаванае»: zawrocić konia — zawrócić konia, rog — róg, drożka — dróżka, młocić — młócić, zwozka — zwózka. „Ta jeziora” (jeziory) ад беларускага «гэта возера» можна пачуць нават ад асоб сярэдняга пакалення.

Падобных анямелых рэштак беларушчыны шмат — і яны надоўга застануцца ў якасці мясцовых дыялектызмаў. Такі закон асіміляцыі адной мовы другою.

*С. Яновіч*



## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### ЯПОНСКІ «ЦУД»

Японія вядомая зараз як краіна з вельмі высока развітай прамысловасцю, вырабы якой карыстаюцца ў свеце найлепшай маркай, попытам. Чаму так сталася, што разбітая ў апошнюю вайну Японія з'яўляецца цяпер трэцяй дзяржавай свету — пасля Злучаных Штатаў і Саюза ССР. Чаму так сталася, што пасляваенная японская прамысловая вытворчасць, дасягнуўшая ў 1946 годзе ўсяго 18 працэнтаў даваеннай, вылезла з пялёнак бяссілля і зараз залівае сваімі таварамі ўвесь свет. Такіх «чаму» многа.

«Японскім цудам» называюць бурлівае развіццё гэтай краіны, размешчанай на густанаселеных астравах. Пасля страшэннай вайны Злучаныя Штаты, акупант Японіі, вырашылі, што будзе яна слабенькай, паўкаланіяльнай дзяржаваю, цалкам залежнай. На карэнны

*Васьміпавярховы будынак краўцоўскай школы ў цэнтры Токіо. Нізкае будаўніцтва ў Японіі мае сваю прычыну ў частых тут землетрасеннях. Высокія будынкі патрабуюць спецыяльнай канструкцыі.*

зварот у гэтай палітыцы ЗША мела ўплыў перамога кітайскай рэвалюцыі і выгнанне Чан Кай-Шы на Тайван. На падабенства Заходняй Германіі, Японія, замест краіны, кінутай на калені, сталася так званай апораю Захаду ў Азіі. Гэтакая роля Японіі ўмацавалася падчас славутай карэйскай вайны, калі Злучаныя Штаты выдаткавалі тут звыш 2 мільярдаў долараў для патрэб сваёй арміі на карэйскім фронце. Гэта мела капітальнае значэнне ў адбудаванні японскай эканомікі. У гэтым як бы сімвал таго, што Японія вырасла і жыла з войнаў, і аджыла.

Амерыканская пагоня за прыбыткамі хутка давяла да капіталістычнага паразумлення і міжнароднай салідарнасці — былі адноўлены вялікія японскія канцэрны. Амерыка на працягу дваццаці гадоў уліла ў Японію каля пяці мільярдаў долараў у якасці крэдытаў і пазык. Высокакваліфікаваная працоўная сіла знаходзілася на месцы. Ужо да вайны працэнт непісьменных у гэтай краіне быў надта нязначны. Пасля вайны вярнулася на радзіму каля шасці мільёнаў японцаў, якія выконвалі, пераважна, адказныя функцыі на акупаваных Японіяй тэрыторыях Манджурыі, Карэі, В'етнама, Філіпінаў, Бірмы і г.д. — на тэрыторыі каля васьмі мільёнаў квадратовых кіламетраў. Людзі гэтыя мелі вялікі вопыт адміністрацыйна-тэхнічнай працы, кіравання эканомікай, што мела велізарнае значэнне для пасляваеннага «ўставання з каленяў» пабітай краіны.

Надта важнай акалічнасцю, якая спрыяла гэтаму «ўставанню», з'явілася сельскагаспадарчая рэформа. Японскі селянін стаў, дзякуючы рэформе, не толькі карміцелем краіны, але і істотным пакупніком прамысловых багаццяў. Прытым трэба ведаць, што знішчэнне ў вайну фабрык, машын, стала быццам бы «шчасцем у няшчасці»: адбудоўваныя фабрыкі абсталёўваліся новымі машынамі і, натуральна, лепшымі ад даваенных.

У 1952—67 гадах японскія манаполі заключылі каля пяці тысяч дагавораў аб тэхнічным супрацоўніцтве з перадавымі канцэрнамі Злучаных Штатаў, Вялікабрытаніі, Заходняй Германіі, Швейцарыі. Закупленыя патэнты ды ліцэнзіі ўдасканальваліся на столькі, што неўзабаве настаўнікі дайшлі да вываду, што вучань разумнейшы ад іх. Цяпер Японія прадае касметыкі ў Францыю, гадзіннікі ў Швейцарыю, і г.д. Адкуль такая высокая якасць тавараў, што нават у Швейцарыі лепш цэняцца японскія гадзіннікі ад швейцарскіх? Японскія эканамісты гавораць:

«Перш на ўнутраны рынак — потым на экспарт». Азначае гэта, што на экспарт прызначаюцца такія тавары, якія здабылі папулярнасць сваёй добрай якасцю і таннасцю на ўнутраным японскім рынку.

Японія вельмі многа капіталу прызначае на будаўніцтва новых прамысловых аб'ектаў, профіль прадукцыі якіх дае перспектыву на хуткае развіццё вытворчасці ў будучыні. Ідзе на тое амаль трэцяя частка нацыянальнага даходу краіны. Прытым, кошты аплаты рабочай сілы параўнаўча невялікія. У гэтай багатай краіне, займаючай са сваім багаццем трэцяе месца ў свеце, узровень дабрабыту насельніцтва скромны: у гэтым сэнсе Японія на 15—16 месцы ў свеце. Самі японцы кажуць:

«З'яўляемся небагатымі грамадзянамі вельмі багатай краіны».

У гэтым яшчэ адна таямніца японскага гаспадарчага «цуду» — праца каштуе мала, даходы фірмаў велізарныя.

Японіі пагражаў гаспадарчы крызіс, ад якога ў значнай, а мо і ў рашаючай меры выратавала яе в'етнамская вайна. Злучаныя Штаты Амерыкі праводзяць у Японіі вялікія закупкі для патрэб ведзенай імі вайны, а таксама для патрэб іх саюзнікаў на Далёкім Усходзе. Толькі за 1965—66 гады вартасць закупак гэтых падлічаецца на суму звыш аднаго мільярда долараў.

Эканамічная палітыка спрыяе разбудоўванню прамысловасці. Няцяжка атрымаць крэдыт, які ў 100 працэнтах пакрывае кошты будовы. Адсутнасць вялікай арміі звальняе нацыянальны бюджэт ад бескарысных выдаткаванняў на ўзбраенне і ўтрыманне салдацкіх мас.

Тыя, што пабывалі ў Японіі, згодна падкрэсліваюць не сустракаемую ў іншых народаў дысцыпліну японца. Тут самы высокі ў свеце працэнт ашчаднасцей і пашана да кіраўніцтва. Ва ўмовах эканамічнай дзейнасці дае гэта, бадай, найбольшую ў свеце эфектыўнасць працы японскага рабочага. Японец прасякнуты пачуццём адказнасці за тое, што робіць, — прасякнуты пачуццём адказнасці за выкананне ўзятых на сябе абавязкаў. Еўрапейца дзівіць такая амаль абсалютная падпарадкаванасць японца свайму кіраўніку, пачынаючы ад майстра.

Незалежна ад сацыяльна-ідэалагічнай сістэмы, усюды, у кожнай дзяржаве, рашаючае значэнне маюць менавіта людзі, іх адносіны да працы, арганізатарскія здольнасці, добрыя ці нядобрыя звычкі.

(а-ся)



*Два разы ў дзень, па сігналу свістка, работніцы фабрыкі транзістаравых апаратаў у Токіо робяць кароткі адпачынак — гімнастыку. Мае гэта добры ўплыў на павелічэнне прадукцыйнасці працы і паляпшэнне працаздольнасці.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

### ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ГРЫБЫ

Грыбы, зразумела, — для здаровых. Але не перамайцеся — ці ж не прыемна збіраць грыбы, любавацца імі, блукаць па лесе?! Ёсць нямала такіх людзей, што грыбы толькі збіраюць, бо есці не могуць. Можам іх аднак пацешыць: збіраць грыбы больш здарова, чым іх есці.

Для нас аднак, здаровых, можна падаць некалькі рэцэптаў.

Адзін з найбольш простых. Нарэзаныя баравікі тушым у каструлі з маслам і вялікай колькасцю цыбулі. Падтушыўшы грыбы з паўгадзіны, дадаем па смаку солі, перцу і кіслай смятаны. Такія грыбы можна падаваць не толькі з бульбай, але і з рысам або мучнымі клёцкамі.

Іншую страву з баравікоў можна зрабіць наступным спосабам. Спачатку тушым нарэзаныя грыбы з маслам і цыбуляй. Калі ўжо будуць гатовыя, дадаць нарэзанай сырой бульбы, смятаны і сцертага на тарцы галандскага (жоўтага) сыра. Усё размешваем, устаўляем на паўгадзіны ў духоўку, пакуль бульба не будзе мяккая.

З больш позніх грыбоў раім вам абавязкова выкарыстаць шампіньёны (кані) і рыжыкі.

Шампіньёны раім зрабіць, як шніцэлі. Для гэтай стравы трэба ўзяць грыбы «дарослыя» — такія, якія маюць плоскія, шырокія капелюшы, бо ў маладых капелюшы вузкія і прылягаюць да ножак. Такім чынам, адразаем шырокія капелюшы ад ножак, старанна палошчам, кладзем у пасолены кіпяток і варым 5 мінут. Выняўшы грыбы з вады, кладзем іх на дошчачцы, прыціскаем другой, паклаўшы яшчэ нешта наверсе. Так грыбы павінны астыць. 2 яечкі (на 4 грыбы) размешваем, як на амлет, дадаем соль і перац, кожны грыб мачаем у муцэ, яечку і сухарах, а пасля смажым у вельмі гарачым тлушчы. Падаем адразу з патэльні.

Рыжыкі вельмі смачныя, калі падсмажым іх на патэльні ў вельмі моцна разагрэтым масле. Калі ўжо вы вырашыце зрабіць гэтую страву, дык раім адразу рабіць больш, каб вашыя дамачадцы не перасварыліся.

*Гаспадыня*




## ЖЫТА — САМАЕ ВЫНОСЛІВАЕ

Штогод на Зямлі ад шкоднікаў, хвароб і пустазелля гіне на корані 35 працэнтаў ураджаю. Гэтыя страты спецыялісты ацэньваюць у 75 мільярдаў долараў. Таму вучоныя-біёлагі рашылі высветліць, якія з культурных раслін найбольш вынослівыя. З гэтай мэтай былі абследаваны 40 раслін, — ад бульбы да землянога арэха. І вось высветлілася, што самы адчувальны да нягод жыцця цукровы трыснёг — 55 працэнтаў яго ўраджаю гіне ад шкоднікаў, хвароб і пустазелля. Рыс, кофе, какао трацяць на корані крыху менш як палавіну ўраджаю. А вось жыта гіне толькі 14 працэнтаў! Сярод 40 культурных раслін яно па вынослівасці апынулася на першым месцы.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### СТАЛЯРНЯ Ў ГАРАДКУ

Гарадоцкая сталярня будуе дамы, вядзе рамонты, і робіць вокны, дзверы і г.д. Найчасцей будуе будынкі спулдзельням прадукцыйным, пілуе дошкі, а таксама іх гэблюе для паасобных гаспадароў. У мінулым годзе выпрацавала яна 1.316 тыс. зл. і мела 180 тысяч чыстага даходу. У будучыні пабудуецца тут яшчэ адзін цэх і склад. Узрасце тады запатрабаванне да працы на 10 асоб.

Работнікі сталярні шмат працуюць грамадскім чынам: парадкавалі пляц вакол сталярні, рамантавалі агарожу.

*Я. Цялушэцкі*

### БАЦЬКІ І ДЗЯЦІНЦЫ

Каб аблегчыць працу вясковых жанчын падчас найбольшых сельскагаспадарчых работ, нашыя ўлады прызначаюць на гэта шмат грошай. Але людзі не хочуць і не ўмеюць гэтага выкарыстоўваць. Напрыклад, справа вясковых дзяцінцаў. На іх шмат грошай прызначаюць розныя ўстановы.

Часта так ёсць на вёсцы, што ў данай сям'і ёсць некалькі дзяцей у прадшкольных гадах, але да дзяцінца бацькі іх не пасылаюць. Чаму? А мо за дорага трэба плаціць за дзяцінцы? Не! Ніхто не скажа, што дорага. За адно дзіця ў месяц плаціць трэба толькі 100 зл Гэта значыць, 4 зл. за адзін дзень. За гэтыя 4 зл дзіця тры разы ў дзень атрымоўвае яду і мае поўную 10-цігадзінную апеку. І нягледзячы на тое, што гэта вельмі танна і вельмі выгадна, не ўсе бацькі пасылаюць дзяцей у дзяцінцы. Узнікае пытанне; чаму не пасылаюць? І вось адказ на гэтае пытанне даволі сумны. Таму не пасылаюць дзяцей у дзяцінец некаторыя бацькі, бо дзіця павінна прыйсці чыстае, чыста апранутае, а гэтым не хочацца займацца. А дома ніхто на чысціню не звяртае ўвагу.

Як бачым, з культурай на вёсцы ў некаторых бацькоў вельмі дрэнна.

*Я. В. Грамада Нараўка*




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Была ў мяне сяброўка Тамара. Я выйшла замуж у іншую вёску (далёка ад маёй). Тамара яшчэ незамужняя. Падчас майго вяселля адзін хлопец з вёскі, у якую я выйшла замуж, Валодзя (сваяк майго мужа) пазнаёміўся з Тамарай і ўвесь вечар з ёю танцаваў. Гаварыў мне потым, што яна яму вельмі спадабалася. Валодзя прыстойны хлопец і я заўважыла, што ён таксама спадабаўся Тамары. Але пад канец забавы Валодзя вымушаны быў пайсці са сваёй дружкай на вячэру ў вясельную хату. (Тамара не была запрошана на вяселле, бо мы перад тым трохі паспрачаліся). На гэтым і скончылася іхняе знаёмства.

Прайшло трохі часу. Валодзя пачаў часцей прыходзіць да нас і прасіць мяне, каб я запрасіла Тамару прыехаць да нас, бо ён хоча з ёю сустрэцца, а ў яе вёсцы не мае нікога знаёмага. Як я пераканалася, Валодзя вельмі любіць гарэлку, мала калі бывае цвярозым. І хоць ён прыстойны, дзяўчаты ім не цікавяцца. Бо хто ж хоча мець мужа — п'яніцу. Не ведаю, што рабіць: — ці дапамагчы Валодзю ў сустрэчы з Тамарай ці не. Па-першае, шкада мне дзяўчыны, бо не думаю, што, калі ён ажэніцца, дык перастане піць, а падругое, хацела б урэшце ад яго адчапіцца. Муж мой раіць мне не мяшацца ў гэтыя справы. А можа муж і мае рацыю? Адкажы, Сэрцайка.

*Зіна з Гайнаўшчыны*

*Зіна!* Вядома, што муж твой мае рацыю. Калі б Валодзя быў вартасным чалавекам, дык чаму ж не пазнаёміць са сваёй сяброўкай, але ў такім выпадку пэўна, што нельга. Лепш мець, як кажуць, чыстае сумленне. А каб адчапіцца ад Валодзевай нахабнасці, проста ты павінна шчыра яму сказаць, што ты не будзеш займацца ніякім сватаўством і, калі ён хоча, (ведае ж, дзе жыве Тамара), дык няхай сабе едзе і сам займаецца сваімі справамі.

*Сэрцайка*

*Ліст у рэдакцыю*

### У РЭДАКЦЫЮ БЕЛАРУСКАГА ТЫДНЁВІКА Ў БЕЛАСТОКУ

У сувязі з ліквідацыяй Педагагічнага ліцэя ў Бельску, як і ўсіх педліцэяў у Польшчы, складаю рэдакцыі «Нівы» сардэчную падзяку ад імя школы і ад сябе за выключна сардэчныя адносіны да нас.

На старонках вашай газеты часта паяўляліся не толькі кароткія інфармацыі, але і шырэйшыя артыкулы, асабліва ў апошнія гады, якія знаёмілі грамадскасць Беласточчыны з працай нашага ліцэя, яго наватарскімі формамі і метадамі, яго выхаваўчай працай, якая выхоўвала ў моладзі братэрскія інтэрнацыянальныя адносіны паміж дзвюма нацыянальнасцямі — польскай і беларускай, са смелымі ініцыятывамі школы, у аснове якіх ад самага пачатку існавання ліцэя было выхаванне праз друкаванае слова.

Вашыя артыкулы прыносілі нам радасць, пачуццё задавальнення пасля добра споўненага абавязку, дадавалі сіл да яшчэ лепшай працы, умацоўвалі пачуццё салідарнасці, братэрства, заахвочвалі да далейшай працы.

Дзякуем!

Жадаем далейшых поспехаў у Вашай такой патрэбнай нашай краіне ганаровай і цяжкай працы.

*Дырэктар*
*мгр Мікалай Канашынскі*

### ПАРТАЦКАЯ СПУЛДЗЕЛЬНЯ

У Гайнаўскім павеце многія гурткі вясковых гаспадынь маюць інспектавыя вокны, у якіх вырошчваюць рассаду — раннія агуркі, салату, памідоры, капусту і т.д. Штораз больш жанчын на вёсках хочуць мець такія вокны. І на прапанову сельгасгурткоў павятовае праўленне сельгасгурткоў у Гайнаўцы заказвае іх у сваёй услуговай спулдзельні (СУВ) у Нарве. Плацяць за гэта сельгасгурткі са спецыяльнага фонду сельскагаспадарчага прагрэсу.

У гэтым годзе ў нараўскай грамадзе атрымалі па пяць чатырохаконных скрынак гурткі ў Скупаве і Плянце. За іх заплацілі па 7600 зл. Гэта даволі дорага. Аднак ніхто нічога не казаў бы, каб яны былі зроблены добра. Але, на жаль, зроблены яны на смех. Матэрыял з абалоністых точаных досак. А пра шыбы няма і што гаварыць. Некаторыя вокны зложаныя з 13 кавалачкаў шкла. А гэтыя шыбы так дрэнна прымацаваныя, што калі падняць адзін канец акна ўверх, дык усе шыбы абсоўваюцца і падаюць на зямлю. Адным словам, партацтва да апошняй ступені. І за гэтыя спартачаныя інспектавыя вокны здзіраюць такія грошы! За такую суму грошай прыватны рамеснік зрабіў бы вокны, як цацку.

Чаму ж няма ў гэтай спулдзельні тэхнічнага кантролю, чаму няма там гаспадарскага вока, чаму пазорыць сябе ўслуговая спулдзельня?

*В. Я*
*Гайнаўскі павет*

### ЗАБАВА НА ПЛЯЦОЎЦЫ

28 жніўня, на Зельну, кожны год у якім-небудзь Востраве адбываюцца забавы. Найчасцей адбываліся яны ў Паўднёвым Востраве. Сёлета маладзёжная забава пад музыку трохасабовага аркестра з Баброўнікаў адбывалася на пляцоўцы ў Паўночным Востраве. Сабралася сюды вельмі многа моладзі не толькі з навакольных, але нават даволі адлеглых вёсак. Як правіла, моладзь гуляе аж да раніцы, аж стане відна, і толькі тады разыходзіцца. І трэба сцвердзіць, што забава нагул праходзіла культурна, калі не браць пад увагу некаторых задзёрыстых кавалераў, якім «свярбелі рукі».

З. Н.

### ПАДПІСКА НА САВЕЦКУЮ ПРЭСУ

Аддзелы і дэлегатуры, падначаленыя ваяводскаму Прадпрыемству распаўсюджвання прэсы і кнігі (ПУПіК) «Рух» у Беластоку ўжо прымае заказы на падпіску савецкай прэсы на 1971 год. Падпіска будзе працягвацца да 10 лістапада.

Падпіску на савецкія газеты і часопісы для дзяржаўных і грамадскіх устаноў, школ і прадпрыемстваў трэба афармляць у мясцовым найбліжэйшым аддзеле або дэлегатуры «Рух».

У горадзе Беластоку падпіску на савецкую прэсу прымае І раённы аддзел «Рух» пры вуліцы Каперніка 93.

Індывідуальныя падпісчыкі савецкай прэсы могуць складаць заказы ў найбліжэйшых аддзелах, дэлегатурах «Рух» і ва ўсіх клубах прэсы і кніжкі «Рух» або вытыпаваных кіёсках «Руху».

*Дырэктар ПУПіК «Рух»*
*Ян Кавэрка*

### ПАЧАЎСЯ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

Пасля двухмесячнага перапынку ў школах зноў гамонна. Адпачыўшы і набраўшы новых сіл, прыступілі да заняткаў настаўнікі.

На здымку настаўнікі з васьмікласнай школы ў Новым Корніне, што ў Гайнаўскім павеце.

*Фота Віктар Бура*
*Гайнаўка*



### ВЕСТКІ З КЛЯШЧЭЛЯЎ

У ГРН у Кляшчэлях (Гайнаўскі павет) налічваецца 13389 гектараў зямлі, у тым ліку 5900 гектараў ворнай. Адміністрацыйнай уладай ГРН абымае 11 вёсак з 1056 гаспадаркамі.

На тэрыторыі кляшчэлеўскай ГРН шмат лугоў і сенажацяў. Жывёлагадоўля аднак належна не развіваецца. Лік кароў зменшыўся на 200 штук у параўнанні з 1967 годам і складае 2450 штук. Справа ў тым, што сяляне мала цікавяцца якасцю кароў, загаспадараваннем лугоў і сенажацяў, пабудовай хлявоў і санітарнымі ўмовамі жывёлы. Замала ўвагі прысвячае гэтым справам і ветэрынарыйная служба.

Вялікай колькасцю кароў ганарыцца могуць толькі жыхары вёсак Залешаны, Грузка і Сакі.

*

Добра працуе кляшчэлеўская грамадская партыйная арганізацыя, якая налічвае 13 ПОП з 215 членамі і 20 кандыдатамі. У 1969 годзе прынята ў рады партыі 26 кандыдатаў, а ў першым паўгоддзі 1970 года — 5 кандыдатаў. Партыйную адукацыю праходзіла 177 асоб.

*Я. Нараўскі*

### СОЛТЫС — АРГАНІЗАТАР

У вёсцы Тафілаўцы (Гайнаўскі павет) нядаўна два разы людзі працавалі грамадскім чынам пры будове дарогі — вуліцы, якая спалучае дзве часткі вёскі. Ініцыятарам і арганізатарам гэтай грамадскай працы з'яўляецца солтыс вёскі Марыя Пень. Яна ўлажыла ўсе свае сілы, каб жыхары вёскі зразумелі патрэбу карыснага мерапрыемства і ў вольны час выканалі неабходныя работы, каб у гэтым годзе будова вуліцы была закончана. Солтыс так арганізавала працу, што нічога не бракавала пры яе выкананні. І для прыкладу разам са сваім мужам найбольш ахвярна працавала. Аднавяскоўцы не хацелі застацца ззаду пад час працы. Напрыклад, 16 жніўня было зроблена каля 500 м дарогі. Гэта многа. А трэба ведаць і тое, што ў нашых ваколіцах не ўсе так вельмі ахвотна ідуць да работы. І, каб арганізаваць працу грамадскім чынам, трэба напрацавацца арганізацыйна. І ў Тафілаўцах Марыя Пень гэтага дабілася.

У Тафілаўцах няма яшчэ святліцы, аднак жыхары ўжо стараюцца, каб яе пабудаваць. І тут таксама найбольш ініцыятывы праяўляе солтыс Марыя Пень. На фундамент гэтага культурнага аб'екта грамадскім чынам ужо навожаны жвір і каменне. У вёсцы была арганізавана складчына — ад кожнай хаты па 100 зл. на будову святліцы. Быў выбраны вясковы камітэт у складзе: М. Пень, Іван Роля, Сцяпан Зубор, Міхась Рыбак, Анна Тапор, М. Бурса, Ул. Корч. Уладзіміру Хіліманюку даручана заданне арганізаваць далейшыя грамадскія работы пры будове, а таксама сачыць за агульнай будовай і парадкам. Ён будзе намагацца, каб сабраныя грошы як найлепш выкарыстаць.

*М. Панфілюк*
*Дубічы Царкоўныя*

### СПУЛДЗЕЛЬНЯ Ў СТАРЫМ КОРНІНЕ

Спулдзельцы са Старога Корніна (Гайнаўскі павет) гаспадараць на 115 гектарах зямельных угоддзяў, у гэтым маюць 76 гектараў ворнай зямлі. Штогод яны абсяваюць жытам 17 га, аўсом 8 га, рапакам 6 га і пшаніцай 4 га. На пасадку бульбы выдзяляюць 6 гектараў.

Спулдзельня мае 56 кароў і 112 свіней. Зямлю абрабляе 4 трактарамі з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын. У склад спулдзельчага машыннага парку ўваходзіць камбайн, 2 абмалотачныя агрэгаты, сеназграбалкі, шрутоўнікі і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. У мінулым годзе на свае палі старакорнінскія спулдзельцы высеялі 250 кілаграмаў угнаенняў ў чыстым складзе на 1 гектар. У 1968 годзе прадалі яны дзяржаве 43 тоны мяса, а ў 1969 годзе — амаль 64 тоны. За 1969 год спулдзельня выпрацавала 243 тысяч злотых чыстага даходу. Кошт аднае працаднёўкі складаўся з 194 злотых.

*Янцал*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**ДУБІНЫ**

„Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy 2 ojców" (jugosł.), 19—20.

**НАРАЎКА**

„Za frontem" (radz.), „Kobieta wąż" (ang.), 16—20.

**НАРВА**

„Toast" (polski), „Przygoda z piosenką" (polski), 16—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), „Październik" (radz.), 16—20.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Bicz Boży" (polski), 15—16. „Zbyszek" (polski), 17—18. „Sól ziemi czarnej" (polski), 19—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Kaukazska branka" (radz.), 15—16. „Czarny wiatr" (meksyk.), 17—18. „Sąsiedzi" (polski), 19—20.

**ЯНАЎ**

„Nie ma powrotu Johny" (polski), 16—20.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Chewsburska ballada" (radz.), 15—16. „Profesor zbrodni (węgierski), 17—18. „Sól ziemi czarnej" (polski), 19—20.

**МЕЛЬНІК**

„Westerplatte" (polski), 15—16. „Zbyszek" (polski), 17—18. „Sąsiedzi" (polski), 19—20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Kryptonim „Nektar" (polski), „Most" (jugosł.), 16—20.

**НОВЫ ДВОР**

„Adolf" (franc.), „Dziewczyna na rozdrożu" (jugosł.), 19—20.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6 51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5923 W—3

## ● ПАГАНІНІ ●

Кароткае замыканне агарнула мой пакой апраметнай цемрай. На шчасце, паблізу аказаўся электраманцёр Пятрусь. Пры дапамозе найзвычайнейшага дроціка ён вярнуў мне так неабходнае святло. І не толькі святло: з ажыўшага радыёпрыёмніка паліліся цудоўныя гукі скрыпкі. Міжволі я падумаў: дык у сапраўднасці, гэты Пятрусь — вялікі чалавек, ён вярнуў мне ў дом Паганіні, несмяротнага Паганіні, аб якім, магчыма, сам нікалі і не чуў. Я спытаў:

— Дарэчы, Пятрусь, ты ведаеш, хто гэта Паганіні?

— Ведаю, — адказаў ён. — Гэта кампазітар. А чаму вы пытаеце?

— Ды таму, што сёння нават просты электраманцёр павінен прылучацца да скарбаў сусветнай культуры. Няўжо ты не адчуваеш у гэтых гуках бляску генія?

— Аб гэтым вы лепш спыталі б каго-небудзь іншага.

— Ах, Пятрусь, Пятрусь, як бедны яшчэ твой культурны багаж!.. Але я хачу даказаць табе, што і ты ў стане адчуваць, успрымаць, разумець мастацтва. Вось ты, напрыклад, правільна ўгадаў, што гэту рэч напісаў Паганіні. Але ці ведаеш ты, на якім інструменце яна выконваецца?

— На скрыпцы.

— Малайчына! А ці ведаеш ты, хто так цудоўна іграе?

— Так, ведаю. Гэта — я.

Адказ яго супаў з апошнімі акордамі музыкі, пасля чаго дыктар аб'явіў: «Мы перадавалі канцэрт мастацкай самадзейнасці. Запіс па трансляцыі».

Выходзячы, Пятрусь пацісну́ў мне руку і сказаў:

— Абавязкова паслухайце заўтрашнюю перадачу:

— Чаму?

— Будзе перадавацца канцэрт Паганіні, якога вы так любіце. Сёння быў Моцарт...

*Віктар Піцігай*



— *Ізноў суседзі пайшлі ў тэатр...*

### АДСТУПІ

Вядомы палкаводзец Аляксандр Македонскі размаўляў з Дзіягенам каля яго бочкі і, захоплены яго мудрасцю, расчуліўся:

— Я хачу цябе ўзнагародзіць. Прасі ўсё, чаго хочаш.

— Адступі трошкі, — папрасіў Дзіяген. — Ты мне заступаеш сонца.





### ПАЛЯЎНІЧЫ

— Чалавеча! У часе такой навальніцы ты выбіраешся на паляванне?

— Чаму не? Мо мне пашанцуе і нейкая маланка трапіць зайца...

### НЕ ЧУЎ

Едучага з вялікай хуткасцю аўтамабіліста даганяе міліцыянер. Вінаваты гаворыць, апраўдваючыся:

— Я не чуў вашага свістка.

— Нічога дзіўнага: вы ехалі з хуткасцю гука.

### НЕ КАМПЕТЭНТНЫ

— Хуткая дапамога! — крычала жанчына ў тэлефонную трубку. — Прыязджайце! — І, жадаючы прыспешыць прыезд лекара, дадала: — У майго мужа тэмпература пяцьдзесят градусаў.

— У такім выпадку вы спазніліся, — пачуўся спакойны адказ, — гэта ўжо не ў кампетэнцыі медыцыны. Вам трэба пазваніць у пажарную часць!

### ДЗІЎНА

Вядомы спецыяліст спрабуе тлумачыць кіназорцы, што такое тэхнічны прагрэс.

— Вы ўяўляеце сабе, сто год таму назад людзі не маглі нават званіць па тэлефоне.

— Дзіўна! Дык гэта ж так проста — знімаеш трубку і набіраеш нумар...

### ЁН ВЕДАЕ

Муж: — Ты чула, як ноччу грымеў гром?

Жонка: — Не, але чаму ты мяне не разбудзіў? Ты ж ведаеш, што я абсалютна не магу спаць у часе навальніцы.

### ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

У дырэктара кінатэатра запыталі:

— Чаму над выхадам
Электралямпачкі ўсе
паздымалі?..

Дырэктар грымнуў, нібы гром:

— А мы за выхад
Плату не бяром!..

*А. Махнач*

### ЗРАЗУМЕЛА

Неяк прыехалі ў горад муж з жонкаю. Зайшлі ў гаспадарчы магазін, а на паліцы ляжаць каробкі з надпісамі «Электрагрэлка».

— А як яна гэта грэлка? — пытае жонка мужа.

— Ды гэта такая грэлка, што не гарыць, і калі ўключыць ток, то яно грэе і можна тады прыкладаць, куды трэба. Зразумела?

— Зразумела. А куды ж налiваюць ваду? — спытала жонка.

### ЁН МОЖА

У перапоўнены вагон уваходзіць пажылая жанчына і бачыць седзячага на лаўцы хлопчыка.

— Хлопчык, — пытае яна, — ці ж ты не можаш устаць?

— Магу, вядома, ды толькі вы зараз жа зоймеце маё месца!

### СІЛА КАХАННЯ



*Зацягнуўшаеся развітанне!*

### КАМУ АДДАЦЬ

Адзін баксёр вяртаўся позна дамоў і на яго напалі два хуліганы.

— Ану, знімай свой гадзіннік, — сказаў адзін з іх.

Ды не паспелі хуліганы вачыма моргнуць, як абодва ляжалі на зямлі. Апамятаўшыся крыху, яны ўсхапіліся і штодуху паімчалі прэч.

— Эй, хлопцы, — закрычаў ім услед баксёр, — куды вы бяжыце, а гадзіннік каму аддаваць?

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

*Па просьбе А. Карпюка і У. Паўлючука з Беластока змяшчаем песню:*

## ◆ ВАСІЛЬКОВЫЯ ВОЧЫ ◆

*Словы Янкі Насуты*
*Муз. Яўгена Петрашэвіча*

Зорны вечар саткаў
Залатыя ўзоры,
Як цябе я спаткаў —
Сталі сведкамі зоры.
На світанні ўзышла
Яркім светам заранка.
Ой, нашто ж ты мяне
Цалавала, вясннка?

Колькі помню начэй,
Пацалункаў да болі.
Васільковых вачэй

Не забуду ніколі.
Ты паведай, скажы
Свае тайны дзявочы:
Ой, чаму ж у цябе
Васільковыя вочы?

З той хвіліны нашу
У сваім сэрцы трывогі,
Можа суджана так,
Каб сышліся дарогі.
І да раніпніх зор
Мару доўгія ночы.
Ой, нашто ж я спаткаў
Васільковыя вочы?

### ЗАДАРМА

— Хадзем, кумок, у цырульню, пастрыжэмся. Бо, бачу, вы зараслі, быццам у спевакі збіраліся.

— Э, не! Чым плаціць восем злотых, то я лепш куплю паўлітра ды пайду да кума Пятра — ён задарма падстрыжа.

### ПАШКАДАВАЎ

Стаіць сын каля пакусанага пчоламі бацькі:

— Тату, вам вельмі баліць?

— Ох, і баліць!

— То нічога, тату. Але калі пчолы вас кусалі, вы так аднаняліся, што мы ледзь са смеху не пападалі.

### РАЗВОД

Ідзе шлюбаразводны працэс. Муж скардзіцца на дрэнныя паводзіны жонкі.

— У чым яны выражаюцца? — пытае суддзя.

— Вось ужо больш дваццаці год, як яна рэгулярна кідае ў мяне рознымі прадметы.

— І вы столькі год цярпелі?

— Не, высокі судзе, але ў апошні час яна пачала трапляць.

### РАДЫЁ

Міхась купіў новае радыё. Аднойчы нехта грукае ў дзверы. На парозе стаіць чырвоны ад абурэння грамадзянін.

— Пане! Калі не сцішыце сваё радыё, звярнуся ў міліцыю!

— Калі вам не падабаецца маё радыё можаце перанесціся на іншую вуліцу!

— Звяртаю вашу ўвагу, што я менавіта жыву на іншай вуліцы!

### ПРЫСАЛУШЫ, МОЖНА ЕСЦІ

Ажаніўся хлопец і ўзяў жонку не тую, якую хацела маці. На другі дзень маладая гаспадыня гатавала ежу, а незадаволеная свякруха вылежвалася. Ад хвалявання нявестка перасаліла снеданне. Муж пакаштаваў, скрывіўся і сказаў:

— Каб ведаў, хто варыў, я б таму вочы заліў, — і пры гэтым паглядзеў на маці.

— Дык гэта ж твая жончака, — востра адказала яна.

— Ну, нічога. Прысалушы, можна есці, — адказаў сын і, дасалушы, з'еў усё, што было ў місцы.



### СЯМЕЙНЫЯ ПАРАДЫ

Пасля правядзення шматлікіх тэставых доследаў, заходненямецкія псіхолагі раяць дзяўчатам: выбірайце мужоў тоўстых. Чым больш кілаграмаў — тым лепш. Тоўстыя мужчыны маюць лепшы характар. Шчуплыя эгаісты і часцей хлусяць.

*

«Не выходзьце замуж за кавалера, які скончыў трыццаць пяць год!» — раіць амерыканскі прафесар псіхіятрыі Паўль Папэн. На думку прафесара, толькі адной жанчыне на дзесяць удаецца ў такім выпадку адвучыць свайго партнёра ад дрэнных звычак, якія набыў у кавалерскім стане.

*

«Дэйлі мэйл» цытуе настаўленне пробашча адной парафіі пад Лонданам, накіраванае да дзяўчат, якія маюць намер узяць шлюб:

1. Не спрабуй мяняць характар свайго мужа. Прымі яго такім, які ёсць. 2. Заўсёды бяры яго ў абарону. 3. Дазволь мужу апранацца паводле яго густу. 4. Не мяняй прычоскі без яго дазволу. 5. Не папраўляй свайго мужа пры іншых, нават калі памыляецца.

*

Венскі «Кур'ер» паставіў аўстрыйкам іншае пытанне: Які твой ідэал мужчыны? Аказалася, што Адам, аб якім мараць аўстрыйскія дзяўчаты, мае 25—30 год, ён на 3—6 год старэйшы за жонку, а вышэйшы за яе на 10 см, прычым павінен быць ростам у 1,75 — 1,80, валасы яго цёмныя, пахваляваныя, ён не носіць бароды, штодзённа купаецца, курыць папяросы, п'е віно або піва, хоча мець двое дзяцей і пакідае жонцы ўсю касу.



*У каханні ёсць таксама свае бюракраты — гэта старыя халасцякі.*